Наша Свабода

№5(232) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

16 СТУДЗЕНЯ 2002 году СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

## Карпенкі просяць палітычнага прытулку

Сваякі Генадзя Карпенкі – знанага беларускага апазіцыянера, што памёр пры загадкавых абставінах – з'ехалі ў Германію, дзе папрасілі палітычнага прытулку. Пра гэта паведаміла Хартыя'97.

Як вядома, Генадзь Карпенка, віцэ-спікер Вярхоўнага савету 13-га склікання і член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, памёр 6 красавіка 1999 году нібыта ад сардэчнага прыступу. Некаторыя, у тым ліку і сваякі Г.Карпенкі, схільныя кваліфікаваць гэтую смерць як забойства, аднак грунтоўных пацверджанняў гэтаму няма.

Нядаўна ўдава Генадзя Карпенкі Людміла разам з сынам, нявесткай і ўнучкай з'ехалі з Беларусі. Раней яна не аднойчы паведамляла прэсе пра сталы ўціск з боку ўладаў, які сям'я Карпенкаў зведала тут. Сярод праблемаў, з якімі ім давялося сутыкнуцца, называліся немагчымасць уладкавання на працу, праслухоўванне кватэры і тэлефонаў, нагляд і г.д.

Людміла Карпенка ачольвае фонд імя свайго мужа. Гэтая грамадская ўстанова займаецца расследаваннем абставінаў ягонай смерці. Калі яе просьба аб прадастаўленні палітычнага прытулку будзе задаволеная, далейшая каардынацыя дзейнасці фонду будзе весціся з-за мяжы.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Левы пратэст

15 студзеня лідэры трох партыяў: Мікола Статкевіч ад БСДП (Народная Грамада), першы сакратар ЦК Партыі камуністаў Сяргей Калякін і старшыня Партыі працы Аляксандр Бухвостаў падалі заяўкі на правядзенне ў Мінску пікетаў эканамічнага характару. С.Калякін паведаміў, што пікеты маюць прайсці 31 студзеня каля ВА «Інтэграл», насупраць Мінскага трактарнага заводу ды на плошчы Якуба Коласа – адпаведныя заяўкі пададзеныя ў Мінгарвыканкам. Апрача таго, 31 студзеня хваля эканамічных акцыяў захопіць прыкладна 50 іншых гарадоў Беларусі. Пікеты і мітынгі будуць насіць чыста эканамічны характар і пройдуць пад лозунгамі «Не росту цэнаў!», «Дзе абяцаныя заробкі ў 100 даляраў?», «Не платнай медыцыне!», «Зарплату і пенсіі на ўзровень цэнаў».

**Рыгор БУЯН**

# Урок духоўнасці



Фота Ул.Шлапака

*Учора ва ўрочышчы Курапаты адбылося ўрачыстае ўзнаўленне мемарыяльнага знаку «Ад народу Злучаных Штатаў беларускаму народу» – мармуровай лаўкі, усталяванай у 1994 годзе прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам, калі той першым і апошнім разам прыязджаў у Беларусь.*

Дзевяць месяцаў таму невядомыя вандалы разламалі знак. Па гэтым факце было праведзенае расследаванне, якое, праўда, не дало ніякіх вынікаў. Відаць, зламыснікаў не дужа і шукалі. Гэты акт вандалізму пацягнуў за сабой і іншыя сумныя падзеі ў курапацкім лесе. Так, праз нейкі час пасля разбурэння мемарыяльнага знаку тут за кошт тэрыторыі Курапатаў, месца масавых пахаванняў ахвяраў сталінізму, пачалі пашыраць Мінскую кальцавую дарогу.

Аднаўленне мемарыяльнай лаўкі ў Курапатах амерыканцамі, што, у прынцыпе, павінны былі зрабіць мы самі, – гэта яшчэ адзін урок духоўнасці і цывілізаванасці для нас. Прыкра, што мы так паставіліся, па-першае, да падарунку, па-другое, да шанавання амерыканскім народам памяці бязвінна забітых людзей. Ужо не кажучы пра тое, што гэтыя людзі – нашыя суайчыннікі. Мерапрыемства па ўзнаўленні мемарыяльнай лаўкі сабрала амаль усіх прадстаўнікоў еўрапейскіх дыпламатычных місіяў у Беларусі. Адразу кідалася ў вочы адсутнасць прадстаўнікоў Расіі. Ад беларускага боку прысутнічаў намеснік міністра замежных справаў Аляксандр Сычоў.

Акрамя дыпламатаў ды журналістаў, урачыстасць наведалі прыкладна дзвесце актывістаў разнастайных апазіцыйных партый ды рухаў: КХП-БНФ, «Зубра», Маладога Фронту, Беларускай партыі Свабоды, Таварыства беларускай мовы ды іншыя. Сярод іх былі маладыя людзі, што нясуць у Курапатах кругласутачнае дзяжурства.

Амбасадар ЗША ў Беларусі Майкл Козак зачытаў кароткую прамову, пасля чаго адбылося выкананне гімна «Магутны Божа». Майкл Козак казаў аб тым, што з вялікім шкадаваннем даведаўся аб разбурэнні мемарыяльнага знаку і спадзяецца, што пасля рэстаўрацыі такіх інцыдэнтаў больш не будзе.

Пасля сканчэння афіцыйнай часткі мерапрыемства святары правялі ўрачыстую імшу ды асвяцілі лаўку.

**Аддзел інфармацыі**

## ВЕСТКІ



### Нафта з шынаў

Прадпрымальнік з Баранавічаў Ігар Дзякаў стварыў апарат для атрымання са старых аўташын нафты. Аналіз атрыманага прадукту ў лабараторыі Акадэміі навук паказаў, што гэта сапраўды сінтэзаваная нафта. Апрача таго, вынайдзенае прыстасаванне выпрацоўвае бензін і дызельнае паліва. Прадпрымальнік мае на мэце пабудаваць адмысловы завод па перапрацоўцы аўтамабільных шын у нафту.

### Свабодны продаж збожжа

Сёлета міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання абвесціла свабодную дзяржзамову на продаж збожжа. Вытворцы змогуць самахоць распараджацца ўраджаем. Умовы тэндэру па закупках дзяржавай збожжа будуць вызначаныя найбліжэйшым часам.

### Падарунак Мірскаму замку

Жыхарка Лондану Марыя Святаполк-Мірская са старадаўняга беларускага роду Святаполк-Мірскіх падарыла Мірскаму замку, які калісьці быў у валоданні ейных продкаў, карціну сваёй маці, княгіні Надзеі Святаполк-Мірскай пад назвай «Зімовы пейзаж». Карціна напісаная паводле ўспамінаў пра дзіцячыя гады, праведзеныя ў Міры. Найбліжэйшым часам карціну прывязуць у Беларусь. Мяркуецца, што яна будзе выстаўленая ў адной з залаў замку.

### Затрымана самая вялікая партыя гераіну

Праваахоўныя органы затрымалі міжнародную злачынную групоўку гандляроў наркотыкамі. Пры затрыманні ў іх знайшлі 2,5 кілаграма гераіну, завезенага ў нашую краіну з Афганістану. Агульны кошт наркапаршку – 70 тысяч даляраў. Гэты гераін стаў самай вялікай партыяй, затрыманай у Беларусі.

### Самыя інфляцыйныя – снежань і студзень

Летась інфляцыя ў нашай краіне склала 46,1%. У Расіі гэты паказнік роўны 18,6%, на Украіне – 6,1%. Сярод месяцаў рэкорд трымаюць снежань з 5,5% і студзень з 4,8%.

### Дарагая гарэлка

У Беларусі першы раз сёлета падаражэла гарэлка. Яе кошт павялічыўся на 2,5%. Цяпер пляшка «Крышталю-100» каштуе 2.102 рублі, «Белай Русі» – 2.171. Летась гарэлка ў Беларусі даражэла 10 разоў.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку» 1700**

# Наркатычны інтэрнацыянал

*Беларусь займае годнае месца ў міжнароднай супольнасці – пра гэта заявіў Аляксандр Лукашэнка ў мінулую нядзелю на прыёме, дадзеным для кіраўнікоў дыпламатычных місіяў і міжнародных арганізацыяў.*

Учора стала вядома, што гэтае сцвярджэнне беларускага кіраўніка цалкам праўдзівае. У Мадрыдзе пачаўся суд над маракамі, якім ледзь не ўдалося ўвезці ў гэтую еўрапейскую краіну 11 тонаў какаіну. Сярод іх ёсць і беларусы.

Як паведаміла агенцтва *РИА «Новости»*, на працэсе ў Мадрыдзе апроч 36 абвінавачаных іспанцаў і лацінаамерыканцаў, на лаве падсудных знаходзяцца таксама 10 маракоў з Расіі, 3 – з Эстоніі і 3 – з Беларусі. Чым не інтэрнацыянал, у якім нашы суграмадзяне сапраўды занялі годнае месца?

Сутнасць справы – у канцы 1999 году наркабароны з Калумбіі і Іспаніі на тральшчыку *«Taatsaare»* спрабавалі кантрабандна правезці на тэрыторыю Іспаніі, а адтуль – далей у Еўропу груз з 11 тонамі какаіну.



У палоне какаіну...

Іспанскія спецслужбы даведаліся пра гэта і прынялі рашэнне штурмаваць карабель. Падчас штурму загінуў старэйшы памочнік *«Taatsaare»*, 65-гадовы грамадзянін Расіі. Наркатычныя рэчывы патрапілі ў рукі паліцыі.

*Заканчэнне на стар.3*

# Юбілейная доля

## *Эпіцэнтр сёлетніх святкаванняў 120-х угодкаў*

*Янкі Купалы будзе, відаць, у Літаратурным музеі. Тут Купалы найбольш – і ў побыце, і ў духу: мэбля, асабістыя рэчы, партрэты з натуры, фотаздымкі, рукапісы, у фоназапісах захоўваецца ягоны голас і песні на Купалаўвя вершы.*

Заснавальніцай Літаратурнага музею Купалы, што расчыніў свае дзверы пры канцы 1945 году, і збіральніцай у адно паэтавай спадчыны была ягоная жонка Уладзіслава Луцэвіч. Зараз дырэктаркай – Жанна Дапкюнас, унучатая пляменніца паэта.

Цяперашні будынак – гэта ўжо трэцяя прапіска музею: дагэтуль былі Дом прафсаюзаў і Дом пісьменніка. Ён адмыслова ўзведзены пад музей пры канцы 1950-х акурат на тым месцы, дзе стаяў дом, у якім Янка Купала жыў у Мінску з 1927 па 1941 год. На самым пачатку вайны той дом быў зруйнаваны. Ад тагачаснага навакола засталася хіба што таполя, якой давялося трохі перасунуцца. Рэч у тым, што падчас буры дзесьці ў сярэдзіне 1960-х веліччзнае дрэва павалілася – аказалася ўсярэдзіне дуплаватае. Купалавай таполі было шкада, і сук ад яе ўзялі ды ўсадзілі ў зямлю ў іншым месцы. Цяпер тамака зноў вялікая Купалавая таполя.

Літаратурны музей Янкі Купалы – гэта не толькі мінская сядзіба, але яшчэ і 4 філіі. Апошняя з іх паўстала ў Яхімаўшчыне каля Маладзечна толькі летась, у будынку, дзе Купала жыў, працуючы на бровары чорнарабочым у 1906–1907 гадах, і рыхтаваў першы паэтычны зборнік «Жалейка».

*Заканчэнне на стар.7*



КАНФЕРЭНЦЫЯ

## Агульная мова — па-ранейшаму расійская

У Друскеніках адбылася двухдзённая беларуска-літоўская канферэнцыя недзяржаўных арганізацый. З абодвух бакоў удзельнічалі па 15 прадстаўнікоў. Прычым Беларусь прадстаўлялі арганізацыі Гродзеншчыны.

Забяспечыў правядзенне мерапрыемства фонд «Літоўскіх і амерыканскіх ініцыятыў». Мэта ўдзельнікаў – супрацоўніцтва ў межах развіцця дэмакратычнага грамадства. З літоўскага боку ў працы бралі ўдзел прадстаўнікі структур мясцовага самакіравання.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Мінск узбуйніўся

Жылы гарадок вайсковай часці № 1044 (пасёлак Баравая) будзе ўключаны ў склад Мінску. Рашэнне аб гэтым прынята Мінскім гарсаветам дэпутатаў.

Пасёлак Баравая, які месціцца ў кіламетры ад Мінскай кальцавой аўтадарогі, зараз знаходзіцца на балансе Мінскага сельскага раёну. У той жа час жыхары пасёлка – 350 чалавек – маюць мінскую прапіску, усе сістэмы электра- і водазабеспячэння Баравой падключаны да гарадскіх сетказ. Юрыдычнае далучэнне пасёлка да гораду мусіць павялічыць гарадскую плошчу на 35 гектараў і паскорыць добраўладкаванне яго тэрыторыі.

**Лавінія АРЭШКА**

НАСТРОІ

## Аптымізму мала

У мінулым кастрычніку 47 працэнтаў кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў Беларусі лічылі, што ў найбліжэйшыя два-тры месяцы эканамічнае становішча іх прадпрыемстваў пагоршыцца. 42 працэнты разлічвалі на захаванне сітуацыі і толькі 11 працэнтаў чакалі паляпшэння. Такія вынікі анкетнага апытання, якое правялі ў кастрычніку 2001 году вучоныя Навукова-даследчага эканамічнага інстытуту міністэрства эканомікі Беларусі. Удзел у ім узялі 187 кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў краіны.

У аналагічным апытанні, якое праводзілася ў красавіку мінулага году, пагаршэння эканамічнага становішча сваіх прадпрыемстваў чакалі 34 працэнты рэспандэнтаў. Каля паловы — 46 працэнтаў — разлічвалі на стабільнасць; і 16 працэнтаў — на паляпшэнне сітуацыі. Такім чынам, прасочваецца тэндэнцыя да пагаршэння эканамічнага становішча прамысловых прадпрыемстваў Беларусі.

У ліку асноўных прычын, што стрымліваюць вытворчасць, рэспандэнты адзначылі недахоп абаротных сродкаў — 79 працэнтаў, неплацяжы спажыўцоў — 73 працэнты, нізкі платежаздольны попыт — 71 працэнт, падатковую палітыку дзяржавы — 59 працэнтаў, а таксама высокія цэны на сыравіну і матэрыялы — 55 працэнтаў. 8 працэнтаў кіраўнікоў-прамыслоўцаў адзначылі недахоп кваліфікаваных кадраў.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ**

## Ліквідацыя банку

У Беларусі ліквідаваны яшчэ адзін, 16-ы па ліку, акцыянерны камерцыйны банк. «Карпабанк» выключаны з Адзінага дзяржаўнага рэгістра юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў. Такое рашэнне прынята праўленнем Нацыянальнага банку на падставе пастановы Мінскага гаспадарчага суду, які прызнаў завершанай ліквідацыйную вытворчасць у адносінах да гэтага банку. АКБ «Карпабанк» быў зарэгістраваны ў чэрвені 1994 году, а ў красавіку 1999 году праўленне Нацыянальнага банку прыняло рашэнне аб яго прымусовай ліквідацыі. Па стану на канец 2001 году, у Беларусі ў стадыі банкруцтва або прымусовай ліквідацыі знаходзіліся таксама «Чысцінвестбанк», «Белкамбанк», банкі «Інтэкс» і «БелБалтыя».

**Аляксей АРЭШКА**

## Гадавіна «Зубра»

У Барысаве адбыўся несанкцыянаваны мітынг руху «Зубр», прымеркаваны да першай гадавіны ўтварэння руху. Гэта адбылося 14 студзеня 2001 году ў Белавежскай пушчы, публічна «Зубр», ягоная сутнасць і задачы былі прадстаўленыя праз месяц у Мінску каля помніка Марату Казею. Як тады казалася, «зубры не жывуць у няволі. Натуральнае асяроддзе зубра – лес. Натуральны асяродак для чалавека – свабода. Мы адмаўляем насілле. Наш шлях – негвалтоўны супраціў дыктатуры. Сотні зуброў – патрыётаў Беларусі – пачалі гэтую работу. Супраціў рэжыму будзе нарастаць з кожным днём. Дыктатура разваліцца! Будзем разам, і Беларусь стане вольнай!»

Мітынг з нагоды зуброўскай гадавіны прайшоў на месцы расстрэлаў болей як тысячы ахвяр сталінізму, жыхароў Барысава і Крупак. Напярэдадні тут быў учынены акт вандалізму: з помнага крыжа была скінутая шыльда, а таксама быў скрадзены валун з мемарыяльным надпісам у памяць загінулых.

**Алесь КАТОВІЧ**

## Брэст даручылі жанчыне

На пазачарговай сесіі Брэсцкага гарадскога Савету ягонай новай старшынёй абраная Надзея Яшчук, якая да гэтага працавала адным з намеснікаў генеральнага дырэктара ААТ «Дываны Брэсту» і ачольвала на гэтым прадпрыемстве так званы інфармацыйна-ідэалагічны кадравы корпус. Цікава, што за ўсю папярэднюю партыйна-савецкую гісторыю гораду над Бугам ніхто з жанчынаў не меў гонару быць на чале мясцовай улады.

Вынікам мужчынскага перыяду кіравання для 300-тысячнага гораду сталася нясплата ў бюджэт 5 мільярдаў рублёў. 19 прамысловых прадпрыемстваў не выканалі вытворчай праграмы мінулага году.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

ГРОШЫ

## Нядоімшчык з прывілеямі

667 мільёнаў рублёў з улікам ляснога падатку завінаваціліся ў бюджэт за мінулы год нацыянальны парк «Прыпяцкі» і ягоная эксперыментальная лясная гаспадарка «Ляскавічы».

Вялікая нядоімка стала сапраўдным галаўным болем для падаткоўцаў і фінансістаў Жыткавіцкага раёну. Аднак мясцовыя кантрольныя органы не могуць паўплываць на прывілеяванага нядоімшчыка. Рэч у тым, што нацыянальны парк «Прыпяцкі» і эксперыментальная гаспадарка «Ляскавічы» належаць кіраўніцтву справамі прэзідэнта. Як толькі падаткоўцы наважваюцца арганізаваць праверку выплаты падаткаў, дырэктар нацыянальнага парку «Прыпяцкі» Сцяпан Бамбіза папярэджвае, што не пусціць інспектараў правяраць свае структурныя падраздзяленні. На тое патрэбны дазвол кіраўніцтва справамі Аляксандра Лукашэнкі.

Толькі пры канцы году падаткоўцам удалося наведаць эксперыментальную гаспадарку «Ляскавічы», якая непасрэдна Жыткавіцкаму раённаму бюджэту засталася вінная звыш 200 мільёнаў рублёў.

Эксперыментальная лясная гаспадарка была створана яшчэ колішнім кіраўніком справамі прэзідэнта Іванам Ціцянковым дзеля вырабу паркету з каштоўных гатункаў драўніны і экспарту піламатэрыялаў за мяжу. Сюды наведваўся і сам Аляксандр Лукашэнка, каб праверыць, як працуе новае імпартнае абсталяванне.

Эксперыментатары з Ляскавічаў пад маркай санітарнага догляду спляжылі нямала дуброваў у запаведных лясных масівах. Кіраўнік эксперыментальнай гаспадаркі Васіль Бамбіза – дарэчы, родны брат дырэктара нацыянальнага парку «Прыпяцкі» Сцяпана Бамбізы – тлумачыць, што падаткаў ён не можа выплаціць, бо неабходна перш за ўсё сплачваць банку даўгі за валютныя крэдыты на суму 2,8 мільёна даляраў. За валюту гаспадарка купіла найноўшае імпартнае абсталяванне, якое і дэманстравала кіраўніку дзяржавы.

Жыткавіцкі райвыканкам, улічваючы важкую долю падатковых плацяжоў гаспадаркі «Ляскавічы» ў раённы бюджэт, накіраваў у адміністрацыю Аляксандра Лукашэнкі ліст з інфармацыяй пра нядоімку. Станоўчых вынікаў пакуль няма.

**Анатоль ЛІПСКІ**

ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

## Расійскія інвестары могуць купляць беларускія прадпрыемствы

Падчас сустрэчы намесніка міністра маёмасных стасункаў Расіі Уладзіміра Маміганава ў Дэпартаменце па кіраванні дзяржаўнай маёмасцю пры міністэрстве эканомікі Беларусі гаварылася, што расійскія інвестары могуць браць удзел у прыватызацыі беларускіх прадпрыемстваў на агульных асновах.

Уладзімір Маміганаў казаў, што спосабы раздзяржаўлівання ўласнасці павінны быць празрыстыя і дасціпныя для любога расійскага прадпрымальніка, ахвотнага ўзяць удзел у прыватызацыі ў нашай краіне. Ёй сёлета падлягаюць 150 беларускіх прадпрыемстваў.

**Алесь КАТОВІЧ**

ГЕРАЛЬДЫКА

## Крыж і меч замест цэментнага заводу

Новым гербам Крычава (Магілёўская вобласць) афіцыйна зацверджаны герб гораду 17 стагоддзя — часоў Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ): залаты крыж і сярэбраны меч на чырвоным полі. Рашэнне аб зацвярджэнні герба было прынята на паседжанні Крычаўскага райвыканкаму.

Як сцвярджаюць гісторыкі, герб з крыжам і мячом разам з Магдэбургскім правам падараваў Крычаву вялікі літоўскі князь Ян Казімір Ваза ў 1653 годзе. Праз 120 гадоў, пасля ўваходжання ўсходніх тэрыторый Рэчы Паспалітай у склад Расійскай імперыі, герб разам з Магдэбургскім правам быў адменены.

У савецкі час на гербе Крычава — на фоне шчыта — бьў выяўлены мясцовы цэментны завод. У другой палове 80-х гадоў месца заводу заняў контур Палацу князя Пацёмкіна, паколькі палац з'яўляецца самым вядомым помнікам архітэктуры гораду.

**Канстанцін УВАРАЎ**

НОЎХАЎ




Паказальныя баі гусей на выставе «Птушкі-2001». Гусі ашчыпваюць адзін аднага да святочнага стала, пазбаўляючы ад працы повара. Дзеці радуюцца гэтай кухарскай навуцы.

## Перазахаваюць ахвяр нацызму

Сёлета вясной у цэнтры Віцебску адбудзецца перазахаванне парэшткаў каля 800 мірных жыхароў — ахвяр нацысцкага генацыду часоў Другой сусветнай вайны.

Як паведаміў БелаПАНу намеснік старшыні Віцебскага гарвыканкаму Уладзімір Каташук, астанкі былі знойдзены ў 2000-2001 гадах на Ратушнай плошчы гораду пры аднаўленні Свята-Успенскага кафедральнага сабора XVIII стагоддзя. Для ідэнтыфікацыі астанкаў была створана камісія, у склад якой увайшлі як беларускія, так і польскія спецыялісты. Гэта тлумачыцца тым, што маецца версія, згодна з якой там маглі быць пахаваны палякі — вязні гродзенскай турмы, якія былі вывезены ў Віцебск пасля вайны. «Аднак якіх-небудзь сведчанняў, што паказвалі б на сувязь астанкаў людзей з Польшчай, знайсці не ўдалося». Згодна з заключэннямі экспертаў, у пахаванні знаходзіліся астанкі мірных жыхароў гораду, знішчаных нацыстамі падчас акупацыі Віцебску ў 1941-42 гадах.

**Марат ГАРАВЫ**

МУЗЫКА

## Прэзентацыя «Святой ночы»

У мінулую нядзелю 13 студзеня а 15 гадзіне ў Мінскім кафедральным касцёле імя Найсвяцейшай Панны Марыі Панны, пад эгідай музычнага таварыства «Ліра» адбылася прэзентацыя каляднага праекту «Святая ноч». Падчас канцэрта хорам касцёла Найсвяцейшай Тройцы (Св. Роха) выконваліся традыцыйныя спевы на Божае Нараджэнне, што і сёння гучаць у беларускіх касцёлах: «Ціхая ноч», «Зямля і неба», «А ўчора з вячора», «Паказалась з неба» і іншыя.

Адметнасцю імпрэзы стала выкананне хорам сусветна вядомага каляднага гімну «*Adeste, fideles*» і негрыцянскага спірычуэлса «Ты абвяшчай». Усё гэта суправаджалася цікавымі, а часам і забаўляльнымі каментарамі вядучага.

Знайсці дыск «Святая ноч» можна ў касцёлах Мінску. Таксама запланавана яго распаўсюджванне ў крамах беларускай сталіцы і рэгіёнах.

**Тадэвуш СВЯНЦЕЦКІ**

СТАСУНКІ

## Усход трэба ведаць

17 студзеня Скарынаўскі цэнтр ладзіць Міжнародны «круглы стол», прымеркаваны да 10-годдзя ўсталявання дыпламатычных стасункаў паміж Беларуссю і Кітаем. Сярод удзельнікаў – усходазнаўцы і пасол Кітая ў нашай краіне У Сяоцю. На думку арганізатараў «круглага стала», мы мусім вывучаць усходнюю цывілізацыю, у прыватнасці, Кітай, тым больш гэтая дзяржава становіцца ў свеце ўсё ўплывовей. У Беларусі павінны з'явіцца прафесійныя ўсходазнаўчыя цэнтры. Вопыт такі маецца – аддзяленне ўсходазнаўства існавала ў Віленскім універсітэце напрыканцы 18 – напачатку 19 стагоддзяў.

**Кірэй МАНУЙЛА**

МЯЖА

## Распалавіньваюць «Варшаўскі мост»

Бульдозеры, экскаватары і аўтакраны пацяснілі чаргу легкавікоў на памежным пераходзе «Варшаўскі мост» у Брэсце. Сярод зімы будаўнікі пачалі ўзрываць асфальт і капаць траншэі. Зроблены пачатак рэканструкцыі так званых варотаў на Захад, збудаваных яшчэ ў 1980 годзе, калі чакаўся небывалы за ўсю гісторыю СССР наплыў замежцаў на Алімпійскія гульні ў Маскве.

Аб'яўлена, што ў бліжэйшы час будуць закрытыя ўсе 6 транспартных каналаў на левым баку пераходу, каб на месцы цяперашняй павеці пачаць будаўніцтва двухпавярховага модуля з удвая большай прапускной здольнасцю. Тым часам чарга з аўтамашынаў на выезд за мяжу будзе рухацца праз другую палову памежнага пераходу, дзе таксама 6 транспартных калідораў. Тут беларускія памежнікі, мытнікі і іхнія польскія калегі вымушаныя будуць тоўпіцца адзін ля другога на даглядзе, што не абяцае зручнасцяў турыстам і камерсантам.

**Галіна БАРАВАЯ**

# Наркатычны інтэрнацыянал

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Між іншым, на той момант гэта быў другі та памеры наркатычны ўлоў, які дагэтуль быў затрыманы ў свеце.

Са спасылкай на судовыя крыніцы Іспаніі *РИА «Новости»* паведаміла, што сярод членаў экіпажу тральшчыка ёсць цяжка хворыя асобы. Яны пакутуюць на сухоты і дыябет, а адзін перасоўваецца на мыліцах. На жаль, мы не маем звестак пра стан здароўя беларускіх маракоў. У міністэрстве замежных справаў Беларусі нам не падказалі нават імёнаў нашых суграмадзянаў, што знаходзяцца пад судом у замежнай краіне.

Тым часам, у іспанскім грамадстве нараджаецца вялікі скандал з нагоды гэтай справы. Як высветлілася, трое суддзяў 4-й палаты Нацыянальнай судовай калегіі Іспаніі за 23 дні да пачатку суду «з гуманітарных меркаванняў» выпусцілі на волю чалавека, які лічыцца галоўным арганізатарам кантрабанднай аперацыі – Карласа Руіса Сантамарыя (мянушка «Эль Негра»). У якасці абгрунтавання гэтых дзеяняў суддзі спасылаліся на медычнае заключэнне, зробленае турэмным доктарам, паводле якога Эль Негра пакутуе на «цяжкую дэпрэсію з устойлівай цягай да самазабойства», і таму, маўляў, знаходжанне за кратамі шкодзіць ягонаму здароўю.

Скарыстаўшыся гэтым, арганізатар адразу ж знік у невядомым напрамку. Дарэчы, пракурор меўся патрабаваць для яго 60 гадоў турэмнага зняволення і штраф памерам 360 мільёнаў еўра (каля 320 мільёнаў даляраў).

У дачыненні да астатніх маракоў пракуратура патрабуе турэмнага зняволення па 14 гадоў кожнаму. Кожны з абвінавачаных мае свайго адваката, якога прызначыла іспанская дзяржава. Усе маракі запэўніваюць, што не ведалі, перавозкай чаго яны насамрэч займаліся, бо ў момант пагрузкі іх на борце судна не было.

Чым скончыцца гэты працэс, пакуль невядома. Але ён яскрава дэманструе, што беларусы – не старонні для сусветнай наркагандлёвай супольнасці.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

### Даведка НАШАЙ СВАБОДЫ

Какаін – алкалоід, які ўтрымліваецца ў лісце какаінавага кусту. Выклікае ўзбуджэнне, потым – прыгнечанасць цэнтральнай нервовай сістэмы. Ён падаўляе адчувальнасць нервовых канчаткаў. Ужываецца ў якасці сродку для мясцовага абязбольвання. Частае ўжыванне прыводзіць да какаінізму, або какаінавай наркаманіі.

Гэтае захворванне характарызуецца хуткім развіццём выражанай псіхічнай залежнасці. Какаін лёгка засвойваецца праз слізістую абалонку носу. Таму наркаманы звычайна ўжываюць яго, удыхаючы крышталі прэпарату. Найбольш цяжкія наступствы адбываюцца пры ўнутрывенным увядзенні какаіну. У некаторых выпадках інтэрвалы паміж ін'екцыямі скарачаюцца да 10 хвілінаў.

Какаін выклікае прыгнечанасць настрою, пераацэнку фізічных і разумовых магчымасцяў. Нярэдка з'яўляюцца вар'яцкія ідэі, галюцынацыі, вынікам якіх могуць быць небяспечныя для грамадства дзеянні. У какаіністаў часта адзначаюцца праблемы са страўнікам, страта апетыту, фізічнае знясіленне, а таксама бяссонне, часам сутаргавыя прыпадкі.

1 кілаграм какаіну каштуе на амерыканскім рынку 25 000 даляраў.

# Фронт расплanаваўся на паўгода

12 студзеня прайшоў першы сёлета і пасля снежаньскага з'езду Сойм партыі БНФ і БНФ «Адраджэньне». Кіраўнічы орган Фронту распланаваў сваю дзейнасць на бліжэйшыя паўгода ды больш дэталёва структураваў выканаўчы орган – Управу, зацвердзіўшы ў яе складзе 11 пастаянных тэматычных камісіяў. 7 з іх новыя: арганізацыйна-прававую ўзначаліла намесніца старшыні БНФ Галіна Сямдзянава, партыйнага навучання – Аляксей Янукевіч, па сувязях з грамадзянскай супольнасцю – прэзідэнт праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі, выбарчую камісію – Віктар Івашкевіч, міжпартыйных сувязяў – Юрый Хадыка, створаны таксама камісіі па пытаннях наступстваў Чарнобыльскай катастрофы і эканамічнай бяспекі краіны. Вынікі Сойму каментуе старшыня БНФ Вінцук Вячорка.

— Першы пасля з'езду Сойм выконваў найбольш аператыўныя рашэнні, прыняты рабочы план працы на бліжэйшыя паўгода. Ягоны змест — гэта акцыі як тэарэтычнага, так і практычнага характару ў абарону незалежнасці. Я маю на ўвазе штомесячныя «круглыя сталы» з запрашэннем навукоўцаў, менеджэраў і спецыялістаў у розных галінах; гэта акцыі агульнапалітычнага гучання – 25 сакавіка і гадавіна Чарнобыльскай катастрофы 26 красавіка. Прычым як «круглыя сталы», так і масавыя акцыі мяркуецца праводзіць не толькі ў Мінску, а рабіць акцэнт на рэгіёны. Гэта і паэтапная падрыхтоўка да мясцовых выбараў.

Зацверджаныя прынцыпы фармавання выканаўчага органу БНФ – адгэтуль Управа сапраўды становіцца выканаўчым органам, таму што кожны з сяброў Управы мае за плячыма выканаўчую структуру або пэўную тэрытарыяльную раду, або тэматычную камісію.

Сярод камісіяў, зацверджаных на Сойме, адзначу аднаўленне дзейнасці чарнобыльскай камісіі і стварэнне адмысловай камісіі эканамічнай бяспекі Беларусі. Задача гэтай камісіі – выпрацоўваць падыходы і практычныя захады абароны беларускага нацыянальнага набытку ад расійскай алігархічнай прыватызацыі.

— *Чым выкліканая неабходнасць падобнай структурызацыі Управы?*

— Многія з камісіяў у нас працавалі і на працягу апошніх двух гадоў, а некаторыя, як культурніцкая, — ад моманту стварэння БНФ. Разам з тым аднаўленне чарнобыльскай камісіі – гэта наш адказ на злачынную бяздзейнасць уладаў перад наступствамі Чарнобыльскай катастрофы. Як вядома, былі зменены падыходы да праблемы, якіх некалі ўдалося дамагчыся БНФ: зноў лічыцца, што людзі могуць і жыць, і спажываць прадукцыю, вырашчаную на забруджаных тэрыторыях. Нагадаю, некалі менавіта БНФ узняў пытанне аб выратаванні нашай нацыі ад чарнобыльскай бяды. Стварэнне камісіі па эканамічнай бяспецы – таксама вельмі практычная рэч. Цэлы шэраг іншых камісіяў, як выбарчая камісія, грамадскіх сувязяў, сувязяў з грамадзянскай супольнасцю, патрэбны для папулярызацыі працы Фронту і прыцягнення як мага шырэйшага кола нашага актыву, у тым ліку маладога, да актыўнай палітычнай дзейнасці.

Мы прынялі шэраг тэматычных ухвалаў, адна з якіх датычыць апошніх арыштаў сярод дырэктарскага корпусу. Мы нагадваем, што папярэджвалі яшчэ пасля арышту Старавойтава, што гэты рэжым не будзе звяртаць увагі на лаяльнасць дырэктарату, і, на вялікі жаль, дырэктарат так і не зразумеў, што яму трэба актыўна супрацьдзейнічаць рэжыму, а не спрабаваць лізаць яму пяткі; гэта ёсць заява пра сітуацыю з прафсаюзнымі складкамі, дзе мы вітаем рашучасць салігорскіх шахцёраў – яны адзіныя зразумелі, што трэба бараніцца дзеяннем, а не пустымі спадзевамі на сугоду з уладамі. І гэта пратэст супраць закрыцця перадачы «Голас душы» – адзінай беларускамоўнай рэлігійнай перадачы на афіцыйным радыё.

— *З чаго Фронт пачынае 2002 год?*

— Мы працягваем нашу падрыхтоўку да магчымага супрацьдзеяння новым саюзным сцэнарам, і гэта як тэарэтычная, так і практычная падрыхтоўка. І пачынаем якраз з «круглага стала», які мае адбыцца ў лютым і прысвечаны прыватызацыі і эканамічнай бяспецы Беларусі.

**Рыгор БУЯН**

## СВОЙ ГОЛАС

***— Як вы лічыце, сябры прафсаюзаў павінны здаваць складку асабіста — ці цэнтралізавана праз аўтаматычнае адлічэнне пэўнай сумы з заробку?***



**Аляксандр, прыватны прадпрымальнік:**
— З аднаго боку, тэхнічна лепш, каб грошы забіралі аўтаматычна, але, з іншага боку, я лічу, што кожны павінен сам гэта рабіць. Увогуле ў нас прафсаюзы сваю ролю не выконваюць.



**Наталля Паўлаўна, эканаміст:**
— Лепш, канечне, каб было як раней, калі з заробку вылічвалі аўтаматычна, бо так прасцей.



**Кацярына, педагог:**
— Як былы прафсаюзны работнік адкажу вам так. Гэта залежыць ад спецыфікі прадпрыемства. З навучэнцаў, студэнтаў ды працоўнай моладзі лепш браць аўтаматычна, бо грошы могуць не трапіць на патрэбны рахунак. А людзі, у якіх сфармавалася ўжо разуменне ўсяго працэсу, хай здаюць самі.



**Уладзімір, пенсіянер:**
— Наконт гэтага ёсць закон і парадак. Кожны павінен заплаціць за сябе сам. Гэта прыжучыць бюракратаў гэтых прафсаюзных. У іх жа там бюракратыя да такой ступені дайшла, што толькі грошы іх цікавяць. Так ці не?!



**Уладзімір, дырэктар прадпрыемства:**
— Ну, па-старому, як раней было, калі аўтаматычна безнаяўным разлікам вылічвалі грошы. А то зараз значна больш клопатна.



**Кацярына, інжынер:**
— Трэба, каб проста вылічвалі з заробку, так прасцей, чыста аўтаматычна. Менш клопатна.



**Аляксандр, слесар:**
— Трэба, каб вылічвалі з заробку ўжо на прадпрыемстве, бо сам ты можаш і не данесці, куды-небудзь зайсці па дарозе і там гэтыя грошы пакінуць.



**Вольга, хатняя гаспадыня:**
— Лепш, па-мойму, каб сам гатоўкай грошы адносіў, бо ва ўсялякім разе будзеш ведаць, каму ты іх аддаў і куды яны пайшлі. Лепш, каб быў кантроль уласны.

**Апытанне праводзілі Аляксей СТАЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

# ФПБ мусіць пратэставаць

Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі пастаўленая ў такія фінансавыя ўмовы, што масавых акцыяў наўрад ці ўдасца пазбегнуць. Прынамсі, 15 студзеня прафсаюз аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання (АСМ) запатрабаваў ад ФПБ у сярэдзіне лютага правесці агульнарэспубліканскі мітынг пратэсту, калі да 1 лютага Саўмін не адменіць пастанову № 1804 «Аб мерах па абароне правоў членаў прафсаюзаў».

15 студзеня на пашыраным пасяджэнні прэзідыуму Рады галіновага прафсаюзу работнікаў АСМ прафсаюзны актыў падтрымаў патрабаванні прафсаюзаў Салігорску. Трэба нагадаць, што на 6-7-тысячным мітынгу ў Салігорску 11 студзеня прафсаюзы запатрабавалі да 1 лютага адмяніць пастанову Саўміна № 1804, якой скасаваны парадак безнаяўнага пералічэння прафсаюзных складак. Калі іх патрабаванні праігнаруюць, гарнякі 1 лютага правядуць паціхвілінны папераджальны страйк. Апрача таго, будуць распачынацца працэдуры калектыўных працоўных спрэчак з адміністрацыямі тых прадпрыемстваў, якія па-ранейшаму будуць выконваць пастанову.

15 студзеня АСМ падтрымала заклік салігорскіх гарнякоў правесці 1 лютага як дзень салідарнасці: на прадпрыемствах сельскагаспадарчага і аўтамабільнага машынабудавання таксама пройдуць акцыі пратэсту. Больш за тое, калі да 1 лютага пастанова не будзе адменена, АСМ запатрабуе ад Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай арганізаваць агульнабеларускія акцыі пратэсту. Рэч у тым, што прафсаюзы «дзякуючы» ўрадавай пастанове № 1804 не маюць сродкаў на выплату навет авансу сваім работнікам за студзень. Скарачаць людзей у цяперашняй эканамічнай сітуацыі, па словах старшыні АСМ Аляксандра Бухвостава, шкада, дый грошай на скарачэнне няма таксама. Таму прафсаюзы АСМ, радыёэлектроннай прамысловасці, шэраг іншых пачалі адпраўляць супрацоўнікаў у вымушаныя адпачынкі без захавання заробкаў. 14 студзеня на аналагічны крок пайшло і кіраўніцтва ФПБ, пазбавіўшы работнікаў прэміяў, надбавак. Сыходзіць у вымушаныя адпачынкі штатныя супрацоўнікі ФПБ будуць па чарзе.

Відавочна, што акцыяў ФПБ не пазбегнуць.

**Рыгор БУЯН**

## ТЭНДЭНЦЫІ

# Чаму навучым лівійцаў?

Учора самалёт беларускай урадавай дэлегацыі ўзяў курс на Народную Лівійскую Джамахірыю. Дэлегацыю ачольвае міністр замежных справаў Беларусі Міхаіл Хвастоў. Пра гэта паведаміла агенцтва *«Союз-инфо»*.

У яе склад увахodзяць прадстаўнікі розных міністэрстваў і ведамстваў, а таксама кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацыяў, зацікаўленых у развіцці стасункаў з Лівіяй.

Не сакрэт, што больш за ўсё Беларусь зацікаўленая ў развіцці менавіта вайскова-тэхнічнага супрацоўніцтва з Лівіяй. Гэтая краіна-ізгой, з якой па меры магчымасці імкнуцца не кантактаваць цывілізаваныя дзяржавы, мае не толькі вялікія запасы нафты, але і высокую патрэбу ў забеспячэнні сваёй арміі самай сучаснай вайсковай тэхнікай. Таму вытворцы такой тэхнікі навыперадкі бягуць да багатых забеспячэнцаў, што прадстаўляюць армію Лівіі. Напрыклад, у мінулым годзе расіяне практычна перад носам у беларусаў перахапілі кантракт на 600 мільёнаў даляраў.

У афіцыйным паведамленні, зразумела, ні слова пра гэта няма. Там размова вядзецца пра навукова-тэхнічнае і культурнае супрацоўніцтва, але таксама і пра ўзаемадзеянне ў галіне адукацыі. У прыватнасці, адзначаецца, што адным з пунктаў перамоваў стане пытанне падрыхтоўкі ў беларускіх ВНУ «кадраў для народнай гаспадаркі» Лівіі.

Нагадаем, што летась ужо адбыўся сур'ёзны скандал, калі адна з беларускіх газетаў распавяла, чаму навучаюцца ў Мінску іракскія «студэнты». Аказалася – кіраваць зенітнымі і ракетнымі ўстаноўкамі, якія, між іншым, змагаюцца з амерыканскай і брытанскай авіяцыяй. Цяпер, падобна, будзе ствараюцца заканадаўчая база для забеспячэння магчымасці навучання ў Беларусі не толькі лівійскіх адмыслоўцаў...

**Ірына СТАРЦАВА**



# Міністэрства абароны абвяргае...

Дырэктар дэпартаменту па кантролі і інспекцыях міністэрства абароны Беларусі палкоўнік Міхаіл Валачко абверг інфармацыю пра незаконныя здзелкі са зброяй, апублікаваную ў артыкуле Марка Ленцы «Еўрапейскі склад зброі для тэрарызму» (*The Washington Post*, 3 студзеня; НАША СВАБОДА некалькі нумароў таму змясціла перадрук гэтага матэрыялу). У ім сцвярджалася, што Беларусь прадае зброю краінам-ізгоям і міжнародным тэрарыстам.

Як заявіў БелаПАНу Міхаіл Валачко, у артыкуле «ўтрымліваецца, мякка кажучы, скажоная інфармацыя, спецыяльна скіраваная на падрыў даверу да Беларусі з боку сусветнай супольнасці». Паводле яго словаў, існуе развітая сістэма міжнароднага кантролю за ўзбраеннямі. «Любы чалавек ці дзяржава могуць атрымаць інфармацыю аб той ці іншай здзелцы са зброяй, звярнуўшыся ў міжнародныя органы кантролю», — сказаў М.Валачко.

Ён таксама сцвярджае, што міжнародныя арганізацыі па кантролі за экспартам і імпартам узбраенняў і ваеннай тэхнікі не маюць прэтэнзій да Беларусі. Таму, паводле яго словаў, такія публікацыі «могуць толькі пахісnuць пазіцыі» Беларусі на сусветным рынку ўзбраенняў і ваеннай тэхнікі.

Дырэктар дэпартаменту абверг і канкрэтныя лічбы, названыя ў артыкуле Марка Ленцы. Там, у прыватнасці, сцвярджалася, што беларуская армія мае 1 700 танкаў, а польская — толькі 900. Аднак, згодна з афіцыйнымі звесткамі, якія прывёў Валачко, на 1 студзеня 2001 году ў Беларусі налічвалася 1 608 танкаў, а ў Польшчы – 1 668. У адпаведнасці ж з Дамовай аб звычайных узбраеннях і ўзброеных сілах у Еўропе, Беларусь можа мець на ўзбраенні сваёй арміі 1 800 танкаў (з іх 1 525 — у рэгулярных часцях), 2 600 баявых браніраваных машын, 1 615 артылерыйскіх сістэм калібру звыш 100 міліметраў, 294 баявых самалёты, 80 баявых верталётаў. «Кожная дзяржава мае права самастойна вырашаць, як выкарыстоўваць дазволеныя Дамовай квоты ўзбраенняў», — заявіў Валачко. — Узбраенне і ваенная тэхніка могуць знаходзіцца ў войсках, складзіраваць, знішчацца ці прадавацца».

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

# Пратэст супраць «зачыстак»




14 снежня ў Аргуне адбыўся мітынг пратэсту маці, жонак і сясцёр закладнікаў, захопленых і вывезеных расійскімі вайскоўцамі падчас карнай аперацыі 6 снежня 2001 году. У мітынгу ўдзельнічалі каля 200 жанчын. Яны патрабавалі неадкладна вызваліць закладнікаў. 13 снежня паблізу гораду, у кар'еры, дзе дыслакаваліся расійскія часткі, ужо знойдзены трупы двух жыхароў – Вахарсолта Вахаевіча Хатаева (1972 г. нар.), забранага з інтэрнату №30 на вачах у жонкі і дваіх дзяцей, і Магамеда Гулуева (1977 г. нар.), захопленага ў сябе дома. На целах забітых вялізныя раны ад стрэлаў з падствольнікаў аўтаматаў і ўмяціны на галовах ад невядомага тупога прадмету. Лёс астатніх закладнікаў застаецца дагэтуль невядомы. Жыхары гораду баяцца таксама, што словы Кадырава пра безвыніковасць «зачыстак» прывядуць да новай хвалі гвалту. Пасля шматгадзіннага стаяння на марозе да мітынгоўцаў выйшаў начальнік міліцыі гораду Хасемікоў і паабяцаў перадаць іх патрабаванні ваеннаму каменданту.

У паселішчы Сернаводскае абрабаваны дом Саід-Хасана Тэрлоева. Расійскія вайскоўцы ўзламалі вароты і на бронемашынах вывезлі ўсю маёмасць, у тым ліку мэблю, посуд, дываны і г.д.

12 снежня ў Чыры-Юрце знойдзены два трупы мясцовых жыхароў, захопленых і звезеных расійскімі вайскоўцамі.

ЧЕЧЕНПРЕСС

# Украінкі супраць русіфікацыі

Грамадскі камітэт «Украінскі Севастопаль» і Саюз украінак заяўляюць пра небяспеку русіфікацыі краіны. Як паведамляе карэспандэнт *«Известий»*, актывісты гэтых рухаў адзначаюць, што «русіфікацыя інфармацыйнай прасторы Украіны з'яўляецца праблемай нацыянальнай бяспекі, на якую не звяртае годнай і чыннай увагі Рада нацыянальнай краіны».

«Украінская мова нявечыцца ўсімі даступнымі спосабамі», — падкрэсліваюць аўтары заявы. У прыватнасці, па іх словах, у многіх перадачах уводзіцца двухмоўны стандарт, калі праграмы вядуць адначасова на ўкраінскай і расійскай мовах. Такія перадачы названыя ў дакуменце «шкоднымі для маладога пакалення».

# У Казахстане большае інвестыцыяў

Эканамічны рост у Казахстане ў 2001 годзе дасягнуты, перадусім, за кошт павелічэння інвестыцыйных укладанняў, актывізацыі прадпрымальніцтва, пашырэння ўнутранага попыту на прадукцыю сельскагаспадарчай вытворчасці. Пра гэта паведаміў міністр эканомікі і гандлю Жакчыбек Кулякееў на прэс-канферэнцыі ў Астане ў панядзелак.

Па яго словах, у рэспубліцы пакуль не назіраецца замаруджвання тэмпаў эканамічнага росту, як гэта адбываецца ў сусветнай эканоміцы.

Па звестках міністэрства, ВУП Казахстану ў 2001 годзе вырас на 13%, рост прамысловай вытворчасці склаў 13,5%, вытворчасці ў сельскай гаспадарцы – 16,9%, у сферы транспарту – 11,3%, сувязі – 33,6%, інвестыцыі ў асноўны капітал выраслі на 21%. Інфляцыя ў Казахстане ў 2001 годзе склала 6,4%.

# Польшча прапусціць наш газаправод

«Газпрам» вярнуўся да перамоваў па будаўніцтве другой веткі газаправоду «Ямал–Заходняя Еўропа», прызначанага для паставак расійскага газу платаздольным і надзейным расійскім спажыўцам. Летам мінулага году праект быў прыпынены з-за разнагалоссяў з польскім бокам. У панядзелак крыніца ў кіраўніцтве «Газпраму» паведаміла, што Расія дамовілася з Польшчаю, і газаправод усё ж перасячэ тэрыторыю гэтай краіны.

Трубаправод «Ямал-Заходняя Еўропа» – дзіця былога галавы «Газпраму» Рэма Вяхірава, які не раз заяўляў, што пабудова газаправоду ў абход Украіны – справа ўсяго яго нага жыцця. Расійскія газавікі шмат гадоў беспаспяхова змагаліся з «несанкцыянаваным адборам газу на тэрыторыі Украіны». Гэтая нітка абыдзецца «Газпраму», паводле папярэдніх разлікаў, у 700–800 мільёнаў даляраў, але затое дазволіць пастаўляць у Еўропу да 30 млрд. кубаметраў газу штогод.

Нягледзячы на тое, што ўкраінскі трубапровод загружаны ўсяго на 60-70% і мае значны рэзерв – 50 млрд. кубаметраў газу ў год, Расія збіраецца настойваць на ажыццяўленні вельмі дарагога праекту абходнага газаправоду. Расійскаму боку давялося весці доўгія перамовы з кіраўніцтвам Польшчы, якое з палітычных меркаванняў не хацела прапускаць газаправод праз сваю тэрыторыю.

Амаль увесь мінулы тыдзень рабочая група, у якую ўвайшлі польскія і расійскія газавікі, а таксама прадстаўнікі мінэканамразвіцця і мінэнерга, абмяркоўвала ў Маскве магчымасці пабудовы гэтага газаправоду. Пакуль што ніякіх дакументаў не падпісана, а намеснік міністра эканомікі Польшчы Марэк Касоўскі, які ачольвае польскую дэлегацыю, заявіў, што «становча ацэньвае вынікі сустрэчы рабочай камісіі». Не выключана, што пытанне будзе канчаткова вырашана ў ходзе візіту расійскага прэзідэнта ў Польшчу.

Падобна, «Газпрам» гатовы выдаткаваць значныя сродкі яшчэ і дзеля таго, каб няспынна трымаць у напружанні Украіну. Кіраўніцтва «Газпраму» даўно казала, што частка газу з аб'ёму, які транспартуецца праз Украіну, будзе перанакіравана якраз на гэтую нітку, якая пройдзе па тэрыторыі Беларусі і Польшчы. Цяпер пагаворваюць, што «Газпрам» будзе павялічваць пастаўкі газу ў Еўропу, і праз газаправод «Ямал–Заходняя Еўропа» пойдзе ўжо дадатковы газ.

Вольга ГУБЕНКА

# Прынца Гары могуць выгнаць з Ітану



Прызнанне 17-гадовага брытанскага прынца Гары ў тым, што ён паліў марыхуану, не падстава для спынення адносна яго следчых дзеянняў. Пра гэта заявіў у панядзелак афіцыйны прадстаўнік паліцыі Уілтшыру Мэндзі Эвелі. Паводле яго ных словаў, з Гары будуць абыходзіцца гэтаксама, як і з усімі непаўналетнімі, якія падазраюцца ў незаконным спажыванні наркотыкаў.

У панядзелак прынц Гары вярнуўся ў каледж Ітан пасля цяжкога уік-энду. У выхадныя з'явіліся паведамленні, што юны спадкаемца брытанскага пасаду паліць марыхуану, спажывае моцныя напоі і нават можа быць накіраваны на прымусовае лячэнне ад нарказалежнасці.

Як паведамляе *Ananova.com*, у каледжы прынца могуць папрасіць здаць аналіз мачы. І калі вынік пакажа, што прынц знаходзіцца «пад кайфам», то адміністрацыя Ітану паставіць пытанне аб выключэнні Гары з гэтай прэстыжнай вучэльні.

# Пасля Талібану

М.Ісхак НАДЗІРЫ, прафесар эканомікі Нью-Йоркскага універсітэту, дарадца па эканоміцы Хаміда Карзаі, часовага кіраўніка Афганістану

*Афганістан почасту называюць «дзяржаваю, якая не адбылася», і якраз гэта часта лічаць прычынай, чаму тэрарысты атрымалі тут такі ўплыў. Але дзяржава не адбываецца не са сваёй уласнай волі, і прычыны, якія аслабляюць яе, не таямніца.*

Дваццаць гадоў акупацыі, грамадзянскай вайны і засух пакінулі інстытуты ўлады Афганістану ў руінах. Мільёны афганцаў сабраліся ў лагерах бежанцаў або пакінулі свае дамы. Уся зямля засеяна фугасамі. З гэтых, а таксама многіх іншых прычын аднаўленне афганскай эканомікі запатрабуе не толькі рэканструкцыі самой эканомікі, але і намаганняў, скіраваных на аднаўленне палітычных і культурных інстытутаў. Аднак такія маштабныя мерапрыемствы будуць асуджаныя на правал, калі суседзі Афганістану будуць умешвацца ў ягоныя справы такім чынам, што гэта зноўку прывядзе да эканамічнага перавароту.

Афганістан – гэта не тое месца, дзе ўсё можа хутка паправіцца. Адраджэння краіны не ўдасца дасягнуць малымі выдаткамі. Не варта думаць, што антытэрарыстычная кааліцыя зможа хутка сысці з Афганістану (як гэта зрабіў Захад дзесяць гадоў назад, кінуўшы Афганістан на волю лёсу пасля вываду з яго савецкіх войскаў).

Тры праблемы патрабуюць неадкладнага вырашэння, і найважнейшае – гэта накарміць афганскі народ, як у самой краіне, так і ў лагерах бежанцаў за межамі Афганістану. Для гэтага ўжо пастаўляецца гуманітарная дапамога, але трэба таксама стварыць сістэму яе размеркавання, якая не дазволіць афганскім палявым камандзірам раскрадаць яе. Цяпер афганскім палявым камандзірам дазволена занадта моцна ўплываць на размеркаванне дапамогі, і, магчыма, вельмі цяжка будзе пазбавіць іх гэтае ўлады.

Другая праблема палягае ў вяртанні дадому афганскіх уцекачоў, якія жывуць цяпер у Пакістане і Іране, а таксама тых, хто пакінуў свае родныя мясціны, але не з'ехаў з Афганістану. Дзеля дасягнення гэтае мэты неабходна адрадзіць сельскую гаспадарку і такім чынам даць людзям працу і прадукты харчавання. Значная перашкода на шляху вырашэння гэтай праблемы – мільёны мін, якія засталіся з часоў савецкага ўварвання, якія трэба абясшкодзіць і знішчыць.

Захад мае ўсе падставы, каб праявіць шчодрасць да афганскай вясковай беднаты. Галодныя фермеры, застаўшыся без дапамогі, могуць вярнуцца да вырошчвання вельмі надзейнай тарварнай культуры, опіумнага маку, што цягам доўгага часу складала аснову эканомікі палявых камандзіраў. Знішчэнне макавых плантацыяў не толькі дапамажа фермерам і Захаду, які спрабуе скараціць спажыванне гераіну, але і маладому афганскаму ўраду ў яго барацьбе за ўсталяванне сваёй нацыянальнай улады над палявымі камандзірамі. Збанкрутаваны палявы камандзір урэшце не зможа купляць зброю або падкупляць людзей, і такім чынам падтрымліваць іх вернасць сабе.

Дзеля адраджэння эканомікі трэба таксама зрабіць вялікія інвестыцыі ў стварэнне інфраструктуры. Трэба хутка адбудаваць такія гарады, як Кабул, Мазары-Шарыф, Герат і іншыя, і зрабіць іх цэнтрамі эканамічнага і культурнага жыцця.

Дзеля аднаўлення гандлю трэба будзе адрадзіць да жыцця дарогі, аэрапорты і ўсю астатнюю сістэму зносін. Аднаўленне сістэмы адукацыі павінна пачацца практычна з нуля, а калі ўлічыць, што мноства жанчын марацць вярнуцца да выкладання, то аднойленая сістэма адукацыі, акрамя ўсяго, дапаможа афганскім палітыкам, якія прытрымліваюцца дэмакратычных поглядаў, атрымаць моцную падтрымку працоўных.

Не варта пазбягаць утварэння эканамічна ізаляваных раёнаў, бо яны складаюць пагрозу нацыянальнаму адзінству Афганістану і граюць на руку палявым камандзірам. Больш таго, бедныя рэгіёны ў такой сістэме будуць развівацца кепска.

Што да доўгатэрміновае перспектывы, то ў Афганістану ёсць прыродныя рэсурсы, якія неабходна распрацоўваць. Ёсць патэнцыял для распрацоўкі радовішчаў нафты і газу, жалезнай руды і каштоўных металаў. Гэтая дзейнасць павінна праводзіцца ў рамках эканамічнага развіцця ўсяе Сярэдняе Азіі. Афганістан мусіць быць інтэграваны ў рэгіянальную сістэму трубаправодаў і другія схемы развіцця. Афганцы тут могуць унесці прыкметны ўклад, зноў адкрыўшы дарогу з Поўначы на Поўдзень, якая звяжа багатыя рэсурсамі краіны Сярэдняй Азіі з густанаселенымі Індыяй і Пакістанам.

Усё гэта будзе немагчымы датуль, пакуль маладыя афганскія мужчыны не будуць разброеныя і не вернуцца да вытворчае працы.

І, нарэшце, дзяржавы-фундатары павінны скарыстаць досвед, набыты пры аднаўленні разбураных вайною краін былой Югаславіі. Выдзяленне матэрыяльнай і фінансавай дапамогі і працэс планавання павінны быць скаардынаванымі, і ўсё гэта павінна адбывацца са згоды краін-суседзяў Афганістану. Калі гэтага не зрабіць, то можна закрануць іх рэгіянальныя інтарэсы, і тады ўсё можа зноўку вярнуцца да стану хаосу. ЗША павінны склікаць міжнародную канферэнцыю па Афганістане, якая павінна працы ісці пад эгідай ААН. На ёй не толькі належыць падтрымаць тэрытарыяльную цэласнасць Афганістану, але і пераканацца ў тым, што фундатарскія абавязальніцтвы адпавядаюць маштабам працаў, якія належыць выканаць, а таксама пераканацца ў тым, што гэтыя абяцанні выконваюцца.

© Project Syndicate, студзень 2002

# Індыя чакае ад Пакістану дзеянняў, а не толькі заяваў

Міністр абароны Індыі Джордж Фернандэс заявіў у панядзелак, што Індыя перастане сцягваць ваенную сілу да сваіх граніц толькі пасля таго, як Пакістан перастане падтрымліваць «прыгранічны тэрарызм». Фернандэс сказаў на прэс-канферэнцыі, што Індыя вітае абяцанне прэзідэнта Пакістану Первеза Мушарафа забараніць дзейнасць ісламскіх баевікоў і яго запэўніванні, што пакістанскія тэрыторыі выкарыстоўваліся ў якасці базы тымі, хто здзяйсняў узброеныя напады на Індыю.

Прэзідэнт Пакістану Первез Мушараф у сваім суботнім звароце да нацыі абвясціў па-за законам ісламскія экстрэмісцкія групоўкі «Сілах-і-сахаба», «Тэхрык-і-джафарыя», «Джайш-і-Мухамад» і «Лашкар-і-тайба». Як заявіў пакістанскі лідэр, дзеянні ў падтрымку руху «Талібан» і арганізацыі «Аль-Каіда» экстрэмісцкія элементы падрываюць міжнародны імідж дзяржавы, а таксама наносяць шкоду эканоміцы Пакістану. Па словах Мушарафа, большая частка насельніцтва краіны асуджае акцыі рэлігійных фанатыкаў.

Аднак Дэлі чакае, калі гэтыя абяцанні будуць падмацаваныя канкрэтнымі дзеяннямі, сказаў індыйскі міністр абароны.

Індыя сцягнула да пакістанскай мяжы свае войскі пасля нападу на свой парламент 13 снежня.

Між тым, газета *The Washington Post* са спасылкаю на крыніцы ў амерыканскай разведцы ў панядзелак напісала пра тое, што Пакістан будуе каля мяжы з Індыяй пяць ракетных пускавых установак. Гэтыя ўстаноўкі, па ўсім мяркуючы, прызначаюцца для запуску тактычных ракет М-11s, вядомых таксама як «Хатф».

Амерыканская разведка мяркуе, што такіх аб'ектаў мусіць быць пяць, прычым месцазнаходжанне трох з іх ужо вядомае. Апошнім часам былі заўважаны перавозкі ракет у паўночныя раёны краіны. Адзін з канвояў, які складаўся з 95 грузавікоў, перамяшчаўся з раёну размяшчэння ракетных установак за 120 км ад Ісламабаду, адкуль накіроўваўся на поўнач. Ёсць звесткі, што туды ж перакідаюцца ракеты з поўдня Пакістану.



# Наступствы крэдытнага скандалу

*Як ужо паведамляла Наша СВАБОДА, польскія ўлады, якіх з Беларуссю звязвае двухбаковая дамова аб прававой узаемадапамозе, яшчэ ў снежні 2001 году арыштавалі ў Варшаве Вацлава Маркевіча, вядомага беларускага бізнесмена. Сёння мы прадстаўляем увазе чытачоў запісанае ў Варшаве інтэрв'ю з ягонаю жонкай Святланай.*

***– Беларуская пракуратура інкрымінуе сп. Маркевічу ўчыненне асабліва цяжкага злачынства – махлярства ў асабліва буйных памерах, за якое ў Беларусі пагражае да 15 гадоў пазбаўлення волі (у Польшчы, дарэчы, – да 10 гадоў пазбаўлення волі). У чым канкрэтна яго абвінавачваюць?***

– Наколькі я ведаю, гэтая гісторыя пачалася яшчэ ў 1995 годзе. Фірма «Экском» з фірмай «Гандлёва-прамысловы саюз» узяла ў «Беларусбанку» крэдыт у памеры 2 млн. даляраў, пад заклад будынку па вул. Ляшчынскага, 8, які тады будаваўся. Памер закладу ацэньваў гарвыканкам, і ён быў вышэйшы, чым памер крэдыту. Праз неспрыяльныя абставіны, якія склаліся пазней, крэдыт вернуты не быў. Але заклад застаўся.

Калі крэдыт не вярнулі, заклад – будынак – быў рашэннем Гаспадарчага суду Мінскай вобласці перададзены ў распараджэнне банку. Банк выставіў у 1996 годзе гэты будынак на таргі. Суму вызначыў суд – 29 450 млн. беларускіх рублёў (на той час гэта было 2 з лішкам мільёны даляраў), то бок гэта перакрывала суму крэдыту і штрафы за невяртанне крэдыту. Але будынак прастаяў на таргах два гады. Ніхто яго не пераацаніў за гэты час, хоць ёсць, аказваецца, адпаведная пастанова, згодна з якой кожныя тры месяцы кошт выстаўленага на таргі аб'екта павінен пераацэньвацца. Але ніхто гэтага не рабіў. І толькі ў снежні 1998 году гэты будынак прадаецца за 29 мільярдаў рублёў (гэта было ўжо нешта каля 300 тысяч даляраў – за будынак плошчаю 16 тысяч квадратных метраў!). Калі гарвыканкам ацэньваў гэты будынак, то кошт квадратнага метра быў блізу 200 даляраў, а прадалі па 8 даляраў за метр квадратны.

Прычым за гэты час Вацлаў вёў неаднаразовыя перамовы з банкам – новым гаспадаром будынку: ён у Польшчы знайшоў інвестара, які заняўся б заканчэннем будавання дому – буйную польскую фірму «Інсбуд», якая якраз хацела ўвайсці на беларускі рынак і згадзілася ўзяць удзел у гэтым праекце. Вацлаў падрыхтаваў камерцыйную прапанову па гэтай інвестыцыі для банку, але банк адмовіў – у нас ёсць ліст, падпісаны спадарыняй Ермаковай.

Больш за тое, Вацлаву ставяць у віну махлярства, выманьванне крэдыту, але ён тады рабіў старшынём рады заснавальнікаў ТАА «Экском» – так, па-мойму, называлася гэтая пасада. І ў яго нават не было права подпісу, то бок ён не падпісваў крэдытнай дамовы. Не меў да гэтага ніякага доступу. І ў дакументах – крэдытнай дамове, дамове закладу і рашэнні суду (а ў мяне ёсць копіі гэтых дакументаў) – нідзе не фігуруюць яго імя і прозвішча.

***– Вы не верыце ў вінаватасць спадара Маркевіча. Аднак і ён, і Вы пакінулі Беларусь. Чым гэта было выклікана?***

– Мы з'ехалі, бо Вацлаў у свой час вельмі шчыльна супрацоўнічаў з Тамарай Віннікавай, гэта была адна каманда – яе каманда. І калі здарылася гэтая страшная гісторыя з Тамарай Дзмітрыеўнай, многія з'язджалі – абставіны такія былі. Да таго ж Вацлаў – паляк паводле паходжання.

З'язджаць не хацелася, тым больш што мы адчувалі толькі пагрозу, але ніякае віны. Віны не было. З 1997 году мы жывем у Варшаве, Вацлаў з першага ж дня аб'явіўся ў беларускім консульстве, стаў там на ўлік, як і належыць. Як ішлі справы па фірме ў Мінску, якія прэтэнзіі выстаўлялі фірме ў звязку з невяртаннем крэдыту, – ён усё ведаў, яго ўвесь час ставілі ў вядомасць, ён размаўляў са следчымі. Яму казалі, што гэтая справа двойчы была спынена. Былы дырэктар «Экскому», які падпісваў гэты крэдыт, мабыць, ведае ўсё больш канкрэтна, але ён таксама з'ехаў з Беларусі, бо яму пагражалі.


Фота Ул. Шлапака

У Варшаве ён не атрымаў ніводнае позвы, ніводнага запрашэння на гутарку са следчым, хоць у пасольстве ведалі, дзе Вацлаў жыве і як яго можна знайсці. Цяпер жа яны ўсе гэта хаваюць, кажуць, што ён знаходзіўся ў вышуку. Апрача таго, ён выязджаў па справах і ў Беларусь, і ў Расію.

***– Калі быў выпісаны ордэр на арышт сп.Маркевіча?***

– Такі ордэр быў выстаўлены, наколькі я зразумела, у лютым 2001 году. Але да гэтага ў 2000 годзе Вацлаў падаў у пасольства просьбу аб выхадзе з беларускага грамадзянства і ў ліпені 2000 году атрымаў дазвол беларускіх уладаў на выхад з грамадзянства. Напэўна, перш чым даваць гэты дазвол, мусілі ўсё праверыць: хто ён, што ён, ці можна яму выйсці з грамадзянства. А ў лютым пачынаюцца нейкія крымінальныя справы. Як яны казалі, ён быў увесь час сведкам, а потым яго пераводзяць у статус абвінавачанага.

***– Наколькі я ведаю, сп.Маркевіч яшчэ да арышту звярнуўся да польскіх уладаў з просьбай аб наданні яму польскага грамадзянства. Гэта значыць, польскія ўлады таксама ведалі, дзе ён знаходзіцца?***

– Безумоўна. Мы не хаваліся. У Вацлава тут фірма, праца, ён прапісаны тут, плаціць падаткі. Нават калі паліцыянты ішлі арыштоўваць Вацлава, то напэўна ведалі, куды ісці: пазванілі праз дамафон, прадставіліся, спыталі, ці можна ўвайсці – гэта было ў 7.30 раніцы 18 снежня. Паліцэйскія пачакалі, пакуль ён збярэцца, і забралі яго. На той жа дзень было прызначана паседжанне суду, ён быў узяты пад варту – спачатку на 30 дзён. У той жа дзень, хоць гэта здаецца дзіўным, стала вядома і дата суду аб экстрадыцыі – гэта 24 студзеня. 10 студзеня, у дзень нараджэння Вацлава, быў апеляцыйны суд па пытанні змены меры стрымання, аднак уважаючы на тое, што неўзабаве адбудзецца суд па экстрадыцыі, Вацлаву прадоўжылі арышт яшчэ на 30 дзён.

***– У гэтай сітуацыі ці не баіцёся Вы за сваю бяспеку і бяспеку Вашых родных?***

– Так, нам пагражаюць. Ужо калі Вацлаў быў арыштаваны, ён сказаў мне і паведаміў адвакатам, што яшчэ вясной была спроба яго выкрасці: да яго на вуліцы падышлі 4 чалавекі, якія пад'ехалі на сінім «Пежо» з польскімі нумарамі, і на чыстай расейскай мове сказалі: «Вы павінны з намі праехаць у пасольства, да Вас ёсць пытанні». Нічога яму не тлумачылі, а толькі запатрабавалі ехаць з імі. Гэта было ўдзень на вуліцы, вакол былі людзі, так што ім не ўдалося прымусіць яго сесці ў машыну.

А тыдзень назад – Вацлаў ужо быў у турме – нехта пазваніў нам дадому, не прадставіўшыся. Голас быў мужчынскі, гаварыў ён па-польску, але вельмі марудна, так што я не магу з упэўненасцю сказаць, што гэта быў паляк. Гэты чалавек мне сказаў літаральна наступнае: «Я званю ад Вацлава. Пакуль ён яшчэ жывы, але ён вельмі прыгнечаны. А Вы павінны толькі маліцца, звяртацца да Бога, бо ніхто на зямлі Вам не дапаможа». Я запытала, хто гэта тэлефануе, на што мне адказалі, што гэта няважна. Ува ўсім гэтым гучала пагроза і папярэджанне – «пакуль ён яшчэ жывы», – каб я нічога не рабіла. На найбліжэйшым спатканні я расказала пра гэта Вацлаву, і ён сказаў, што нікога не прасіў мне тэлефанаваць і нікому не даваў тэлефону. Але ў пасольстве ў Беларусі ведаюць гэты тэлефон.

***– Ваша сям'я мае дачыненне да выдаўца аднае з найбуйнейшых незалежных газет. Ці не звязваеце Вы гэта з пераследаваннем спадара Маркевіча?***

– Магчыма. Да таго, як дачка прыехала да нас, у Мінску яе папярэджвалі, ды яна сама бачыла, што за ёю сочаць. Раздаваліся нейкія дзіўныя маўклівыя званкі. Не так даўно нехта спрабаваў адчыніць дзверы ў яе кватэры, дзе засталася мая мама. Ёй пра гэта казалі суседзі, а аднойчы ноччу яна сама пачула і ўбачыла ў вочка, што нехта корпаецца пры дзвярах. Калі яна спыталася: «Хто гэта?» – той чалавек сышоў.

Вацлаў у свой час супрацоўнічаў з Чыгірам, Анатолем Майсенем, сустракаўся з Ганчаром, Захаранкам. Большасці гэтых людзей ужо няма, астатнія баяцца, бо рэжым мае на іх «кручок». Самі бачыце, праз столькі гадоў пасля справы Віннікавай у Мінску пачынаюць пераследаваць яе сына.

***– Як Вы лічыце, ці можа спадар Маркевіч разлічваць на справядлівы суд у Беларусі?***

– У Беларусі ні ў якім разе. Яго нельга выдаваць Беларусі ні пры якіх умовах, бо зразумела, што там суд нават не захоча ў нечым разбірацца. Беларуская пракуратура абвінавачвае яго ў тым, чаго ён не рабіў. А судовая сістэма ў Беларусі залежыць толькі ад аднаго чалавека. Наколькі я бачу, рэжыму зноўку патрэбны сенсацыі, патрэбны скандалы, патрэбны казлы адпушчэння. І Вацлаў трапіў у чарговую «порцыю».

**Людміла ГУЛЯКЕВІЧ,**
**Варшава**

# Сячы, дык пад корань

*Услед за канфіскацыяй камп'ютэраў моладзевага цэнтру «Гарт» у Гомелі ўзяліся за тэхніку аб'яднання «Грамадзянскія ініцыятывы».*

Распачатае ў жніўні мінулага году, незадоўга да прэзідэнцкіх выбараў, паляванне на грамадскія арганізацыі Гомелю мае свой працяг.

Два тыдні таму суддзя Чыгуначнага раёну Ганна Новік, разгледзеўшы адміністрацыйную справу ў дачыненні да кіраўніка моладзевага цэнтру «Гарт» Сяргея Адзінца, аштрафавала яго на 1 мільён рублёў. На дадатак суддзя пастанавіла сканфіскаваць 2 камп'ютэры, прынтэр, сканер і мадэм, атрыманыя «Гартам» у бязвыплатнае карыстанне ад Агенцтва сусветнага развіцця ЗША праз фонд «Каўнтэрпарт Інтэрнэйшнл».

Пад увагу не былі ўзяты нават сведчанні ў судзе консультанткі «Каўнтэрпарту» Алены Кузьмініч пра тое, што, паводле міжнародных пагадненняў Беларусі і адмысловых пастановаў беларускага ўраду, гуманітарныя праграмы «Каўнтэрпарту» не падпадаюць пад дзеянне прэзідэнцкага дэкрэту №8.

Адміністрацыйная справа, якую разглядала суддзя Новік, нараджалася ў стылі дэтэктыву. У жніўні Гомельскае ўпраўленне КДБ учыніла вобшук на прыватнай кватэры, у якой месціўся «Гарт». Падставай паслужыла ўзбуджаная крымінальная справа пра надпісы на мурах, кшталту: «Горад – наш!», «Жыве Беларусь!» і г.д. Камп'ютэрную тэхніку адабралі, нібыта ёй і сапраўды маглі пісаць на сценах розныя лозунгі.

На той самай падставе супрацоўнікі УКДБ правялі вобшук у прыватным доме старшыні абласнога грамадскага аб'яднання «Грамадзянскія ініцыятывы» Віктара Карнеенкі – забралі 6 камп'ютэраў, 3 прынтэры, калькавы апарат, сканер і нават стары ратапар.

У хуткім часе пасля налётаў на памяшканні «Гарту» і «Ініцыятываў» УКДБ пераадрасавала крымінальную справу рэгіянальнаму ўпраўленню следчага камітэту пры МУС.

Акурат праз месяц пасля прэзідэнцкіх выбараў следчы па асабліва важных справах Уладзімір Вычыкаў вынес пастанову пра спыненне папярэдняга дазнання. Ён высвеціў наступнае: «У перыяд часу з траўня да 9 жніўня 2001 г. невядомымі асобамі – прыхільнікамі незарэгістраванага моладзевага аб'яднання «Зубр» – на мурах і збудаваннях, якія знаходзяцца ў камунальнай уласнасці Гомелю, а менавіта: на фасад жылога дому па вуліцы Макаёнка, 27, на фасад гандлёвага цэнтру па вуліцы Агаранкі, 33, а таксама на іншыя месцы былі нанесеныя цынічныя надпісы, якія апаганьваюць муры і збудаванні, псуюць іх знешні выгляд». Уладзімір Вычыкаў згадвае таксама пра допыт яшчэ дзесяці асобаў, у тым ліку Віктара Карнеенкі і Сяргея Адзінца, пра ператрус у памяшканнях «Грамадзянскіх ініцыятываў» і «Гарту» і робіць выснову, што «высветліць асоб, якія належыць прыцягнуць у якасці абвінавачаных, няма магчымасці».

У гэтай жа пастанове следчы Вычыкаў запісаў: «Абавязаць УКДБ па Гомельскай вобласці выдаць прадметы, адабраныя падчас вобшуку ў домаўладанні № 52 па вуліцы Палескай і кватэры 47 дома 15 па вуліцы 50 гадоў БССР у г. Гомелі, іх законным уладальнікам».

Аднак УКДБ тэхнікі не вярнула. «Грамадзянскія ініцыятывы» паскардзіліся ў абласную пракуратуру, але безвынікова. Намеснік пракурора на бланку пракурора вобласці Алега Палавінкі рэкамендаваў «Ініцыятывам» «па пытанні атрымання адабранага абсталявання звярнуцца ў УКДБ».

Такая кругаверць вымусіла «Грамадзянскія ініцыятывы» звярнуцца ў гаспадарчы суд Гомельскай вобласці з іскам аб дзеяннях УКДБ і «вяртанні маёмасці з чужога незаконнага валодання», а потым у калегію гаспадарчага суду.

Пакуль «Грамадзянскія ініцыятывы» і «Гарт» спрабавалі законным чынам вярнуць адабраную камп'ютэрную тэхніку, УКДБ працягвала «накручваць» падатковую інспекцыю адносна праверкі згаданых грамадскіх арганізацый. Праўда, не з пункту гледжання ўплаты падаткаў, дзе, дарэчы, было ўсё ў парадку, а зусім з іншай нагоды. Вось што пісалі ў акце праверкі «Ініцыятываў» інспектары Марына Карцялёва і Юлія Блінова: «КДБ РБ, упраўленне па Гомельскай вобласці лістом за нумарам 35-4-311 ад 03.08.2001 г. даручыла правесці праверку парадку выкарыстання аргтэхнікі, якая паступае па каналах гуманітарнай дапамогі на адрас грамадскіх арганізацый».

На судзе над кіраўніком «Гарту» Сяргеем Адзінцом ягоная даверанная асоба, юрыст Леанід Судаленка заўважыў, што адміністрацыйная справа павінна быць спынена не толькі з-за таго, што праграмы «Каўнтэрпарту» не падпадаюць пад дзеянне дэкрэту № 8, але і з прычыны сканчэння 2-месячнага тэрміну для пераследу. Пра адміністрацыйнае парушэнне стала вядома 17 жніўня 2001 году (дата ліста УКДБ у падатковую інспекцыю Чыгуначнага раёну), а суд праходзіў у снежні.

Суддзя Ганна Новік свой адміністрацыйны вырак у дачыненні да «Гарту» заснавала перш за ўсё на пратаколах агляду тэхнікі са спыненай крымінальнай справы і на паказаннях пра нібыта нямэтавае выкарыстанне тэхнікі, якія давалі супрацоўнік УКДБ Яўген Сцепаненка і следчы Уладзімір Вычыкаў. Першы з іх акурат і ўдзельнічаў напярэдадні выбараў у ператрусах памяшканняў, дзе знаходзілася камп'ютэрная тэхніка і «Гарту», і «Ініцыятываў».

– Рашэнне суддзі Новік, – сказаў кіраўнік «Гарту» Сяргей Адзінец, – для нас не было нечаканым. Але мне думаецца, што гэтае рашэнне прадэманстравала дзікасць нашай мясцовай улады нават у параўнанні з іншымі рэгіёнамі Беларусі. Калі ў іншых рэгіёнах усю тэхніку, адабраную падчас выбарчай кампаніі, вяртаюць, то ў нашым рэгіёне ўлады не хочуць рабіць нават гэтага.

Як лічыць Адзінец, немагчыма зарабіць сумленнымі метадамі і такую буйную суму штрафу – 1 мільён рублёў. Гэта яшчэ адзін паказчык стаўлення ўлады да апазіцыі, да ўсіх, хто з ёю не згодны.

Суддзя Ганна Новік распачала ўжо разгляд адміністрацыйнай справы і супраць старшыні абласнога грамадскага аб'яднання «Грамадзянскія ініцыятывы» Віктара Карнеенкі. Першае паседжанне адбылося 9 студзеня. Матывы пераследу паўтараюцца: нібыта Віктар Карнеенка як старшыня «Грамадзянскіх ініцыятываў» дапусціў выкарыстанне камп'ютэраў, атрыманых ад міжнародных фондаў у выглядзе гуманітарнай дапамогі, для арганізацыі незалежнага назірання на парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбарах. І гэтым самым парушыў дэкрэт №8.

Ілюзіямі адносна рашэння суддзі Віктар Карнеенка сябе не цешыць. Вынік разбіральніцтва цалкам прадказальны.

– Галоўнае, для чаго патрэбны, і мне ў тым ліку, цяперашні працэс, – кажа старшыня «Ініцыятываў», – гэта яшчэ раз паказаць, наколькі абсурдныя высунутыя ў наш адрас абвінавачванні. Я спадзяюся на падтрымку здаровых сіл грамадства і журналістаў.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ**

# Лепш не хварэць...

*Больш за дзесяць гадоў поруч са звыклай бюджэтнай медыцынай існуе платная. Робіць першыя крокі страхавая медыцына. Ці значыць гэта, што палепшылася медычнае абслугоўванне насельніцтва? Ці павысілася кваліфікацыя дактароў і іх даходы? Пра гэта наша карэспандэнтка распытвала медыкаў. Яны згадзіліся на шчырую гутарку ўзамен на абяцанне не называць у газеце іх поўныя імёны і месцы працы.*

**Лілія Іванаўна, загадчыца тэрапеўтычнага аддзялення аднае з мінскіх паліклінік:**

– Пачнем з таго, што цяпер да нас прыходзяць не ўсе выпускнікі медуніверсітэту, якія атрымалі накіраванне на працу. У дактароў са стажам галава забітая праблемамі выжывання. Адсюль уся гэтая любоў да падаруначкаў і паднашэнняў. Не трэба забываць, што не ў кожнай паліклініцы ёсць неабходнае абсталяванне. І вакол гэтага таксама мноства праблемаў.

І потым, у паліклініку не могуць трапіць людзі, якія адчуваюць недамаганні, не кажучы ўжо пра прафілактычныя наведанні. Усё забіта пенсіянерамі. Я не хачу сказаць, што ў іх ува ўсіх стан здароўя здавальняючы. Але найчасцей сядзяць у чарзе адны і тыя ж. Некага з іх дома ігнаруюць дзеці і ўнукі, і яны прыходзяць, каб пагаварыць. Нехта прывык хадзіць паўсюль: у паліклініку, ЖЭС, выканкам і качаць там правы. Таму наведанне паліклінікі павінна хоць бы сімвалічна аплачвацца тымі, хто не патрабуе тэрміновай амбулаторнай дапамогі.

Возьмем праблему бясплатных лекаў для пэўнай катэгорыі пацыентаў. Бюджэт абмежаваны: мы не можам выпісаць самае эфектыўнае і дарагое. А пацыент скандаліць: ён упэўнены, што дарагія лекі выпісваюцца «па блату». Увогуле любоў да бясплатнага, да халявы амаль у кожнага нашага пацыента ўсмактана, як той казаў, з малаком маці.

Падсумаваўшы, можна сказаць, што ў нас тры галоўныя праблемы. Першая: людзі не прывыклі клапаціцца пра сваё здароўе яшчэ з савецкіх часоў. Тады не было высокадакладнага дыягнастычнага абсталявання, і людзі проста не ведалі пра існаванне некаторых хваробаў. Зрэшты, і хваробаў было меней: экалогія была лепшая, харчаванне хай сабе не разнастайнае, але дастатковае, а цяпер многія жывуць надгаладзь, не кажучы ўжо пра сталы стрэс. Затое тады паслухмяна праходзілі медагляды. Цяпер людзі сталі больш інфармаваныя, іх ужо не прымусіш прайсці флюараграфію. Хто багацейшы, думае, што за грошы можна купіць нават здароўе, хто бяднейшы, але працаздольны, прыходзіць да доктара тады, калі ўжо зусім не ў змогу. Другая: недастатковае фінансаванне галіны, прафесія лекара маральна і матэрыяльна абясцэнілася. Трэцяя: льготы раздаюцца агулам – і старому, у якога персанальная пенсія і абодва ўнукі на «мерседэсах» катаюцца, і адзінокай бабульцы з мізэрнай пенсіяй.

**Юрый Алегавіч, загадчык аддзялення ў клініцы:**

– Нават у Мінску бальніцы ператвараюцца ў сацыяльныя ўстановы. Чалавек, які захварэў, паступае да нас, атрымлівае прызначаныя медыкаменты, працэдуры, але аддае перавагу пасіўнаму лячэнню. Калі яму кажаш, што трэба адмовіцца ад палення, змяніць рацыён, то гэта звычайна як аб сценку гарох. Выпісваючыся, пацыент не забывае ўзяць даведачку для ЖЭСу, каб менш плаціць за кватэру. Выпісваючы пацыента, мы яму прызначаем лячэнне, якое прадугледжвае і набыццё лекаў. Думаеце, іх купляюць? Праз пару месяцаў хвароба абвастраецца, і пацыент зноў у нас. І яшчэ з прэтэнзіямі: кепска лечыце.

Цяпер на належным узроўні дыягностыка: можна зрабіць любое абследаванне пры наяўнасці паказанняў. Але чым лячыць? Калі ў аддзяленне прыходзяць правяральшчыкі, першае пытанне да пацыентаў: «ці купляеце вы лекі?» Ёсць жорсткае патрабаванне: пацыент мусіць лячыцца толькі бальнічнымі лекамі. У мяне 70 ложкаў. У ідэале кожны хворы павінен атрымліваць індывідуальна прызначаныя лекі. У такім разе мая заяўка на медыкаменты павінна абнаўляцца штодзень. Ну і грошы, як заўсёды. Мы ўносім у заяўку ў асноўным недарагія лекі і самыя універсальныя, наколькі гэтае слова можа падыходзіць да медыкаментаў.

Гаварыць аб прэстыжы прафесіі лекара, аб узроўні зарплаты проста не хочацца. Калі б мы працавалі выключна за грошы або, як многія ўпэўнены, за хабар, то трацiна насельніцтва памерла б ужо. Мяне толькі цешыць, што людзі пачынаюць нармальна ўспрымаць платную медыцыну. Да яе, здаецца, болей даверу. Тут вельмі важна, каб, зарабляючы грошы, мы не забылі пра клятву Гіпакрата, у тым старым, савецкім разуменні. Бо, напрыклад, на Захадзе доктар – гэта ў чыстым выглядзе бізнесмен. А ў маім аддзяленні больш за палову хворых – гэта старыя, і толькі ў 15% з іх медычныя праблемы, рэшта – сацыяльныя. Але мы іх выслухоўваем, дапамагаем, чым можам.

**Ірына Паўлаўна, суўладальніца аднаго з прыватных медычных цэнтраў:**

– Сем гадоў у інстытуце, потым у аспірантуры я вучылася на доктара. І што? Жыць на мізэрную зарплату, браць хабар і баяцца кожнага, хто дае? Я такога жыцця не хачу. Але я хачу мець дом, машыну, даць дзіцяці добрую адукацыю. Я магу і ўмею толькі сваёй прафесіяй зарабляць прыстойныя грошы. Мы ўсе мусім круціцца. І таму я не хачу, каб да нас у цэнтр прыходзілі людзі, якія лічаць капейкі. Мы павінны працаваць для забяспечаных людзей. Чалавек здаровы датуль, пакуль яго не абследуюць дактары. А хваробаў цяпер мора, нават нічога прыдумляць не трэба. Абы ў людзей былі грошы, і яны неслі іх нам.

**Антон Уладзіслававіч, доктар вышэйшай катэгорыі, працуе ў клініцы і ў медцэнтры:**

– Праца ў медцэнтры дазваляе, па-першае, дапамагчы людзям, якія хочуць па-сапраўднаму лячыцца, па-другое, самому зарабіць. Можна сказаць, што я працую ў камерцыйнай медыцыне дзеля таго, каб разгрузіць сябе па асноўным месцы працы. На жаль, пакуль што ў дзяржаўнай медыцыне няма ўмоваў для нармальнага лячэбнага працэсу. Вечная нястача ўсяго, нават час прыёму абмежаваны. Маса састарэлых інструкцыяў. Да платнага доктара прыходзяць людзі, якія хочуць быць здаровымі, у бальніцу стараюцца трапіць тыя, хто хоча быць хворым, атрымаць нейкія льготы. У нашым грамадстве яшчэ не стала прэстыжным быць здаровым. Нашмат прасцей быць хворым: цябе пашкадуюць, памогуць. А ўжо качаць правы і патрабаваць паблажак з любой нагоды і без нагоды – самая мілая рэч для людзей, якія знаходзяць асалоду ў хваробах.

**Валерый Сяргеевіч, менеджэр страхавой кампаніі:**

– Развіццё страхавой медыцыны цесна залежыць ад эканамічнага дабрабыту дзяржавы. Пакуль у нас страхавыя полісы для сваіх працаўнікоў купляюць толькі замежныя прадпрыемствы. Людзі ўжо змаглі ацаніць гэты від медычнае дапамогі і набываюць полісы за ўласныя грошы. Можна нават сказаць, што ў нас бедныя прадпрыемствы, але пры гэтым досыць забяспечаныя людзі. З пункту гледжання сённяшняга заробку – гэта добра. Але перспектыва не цешыць, бо грошы ў шэрай эканоміцы могуць выйсці. Альбо ўвядзенне безнаяўных разлікаў паможа нашым кліентам. А ўвогуле перавагі страхавой медыцыны відавочныя: не трэба траціць часу на чэргі, ёсць магчымасць выбраць не толькі лячэбную ўстанову, але і спецыяліста, забяспечаны павышаны ўзровень сервісу, не трэба думаць, колькі «даць» доктару: усе паслугі аплачаныя афіцыйна і доктар атрымлівае свае грошы. Пры страхавой медыцыне не маюць значэння прапіска і нават грамадзянства.

**Абагульненая думка пацыентаў:**

– Гаварыць пра бюджэтную медыцыну проста прыкра. Адзіная яе перавага – высокі прафесіяналізм дактароў, там, дзе яны яшчэ засталіся. Што да платнай медыцыны, то ў ёй усё залежыць ад суадносінаў доктар – бізнес. Чым больш доктар робіцца бізнесменам, тым горш пацыенту.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**



Фота IREX/ProMedia

## Сардэчнае ратаванне

З 12 па 27 студзеня ў Беларусі праходзіць міжнародная акцыя «Дзіцячае сэрца». Як паведаміла прэс-служба міністэрства аховы здароўя, у рамках акцыі Беларусь наведаюць высокакваліфікаваныя спецыялісты ў галіне дзіцячай кардыяхірургіі з Германіі, Англіі і ЗША.

Сумесна з беларускімі спецыялістамі з Дзіцячага хірургічнага цэнтру 30 беларускім дзецям яны правядуць жыццёва важныя аперацыі на адкрытым сэрцы. Большасць з тых дзяцей з малазабяспечаных сем'яў, аперацыі ім будуць праведзены задарма. Кошт аднной такой аперацыі ў замежных клініках вагаецца ад 20 да 100 тысяч даляраў.

**Інга ГРЫМОНТАВА**

## Абваліўся дах у дзіцячым садку

14 студзеня каля апоўдня пад цяжарам снежнага покрыва, што ўтварылася на даху дзіцячага садка ў вёсцы Цешаўля Баранавіцкага раёну Брэсцкай вобласці, абвалілася частка даху гэтай пабудовы. Толькі па шчаслівай выпадковасці ніхто з дзяцей і персаналу не пацярпеў.

Дах зляцеў з прагніўшых крокваў і абваліўся на размешчанае крыху ніжэй перакрыцце. Дзякуючы таму, што перакрыцце вытрымала ўдар пад цяжарам даху і снегу, 11 дзяцей і трое выхавальнікаў толькі крыху спужаліся.

Цяпер дзіцячы садок будзе закрыты і яго выхаванцаў на час рамонту прыме суседняя дзіцячая дашкольная ўстанова.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ**

## Народныя дружыны ловяць п'яніц

З дапамогай членаў добраахвотных народных дружын у Мінску ў 2001 г. раскрыта 48 злачынстваў, звыш за 27 тысяч чалавек затрымана за ўжыванне спіртных напояў у грамадскіх месцах. Пра гэта паведаміў намеснік старшыні Мінгарвыканкаму і старшыня гарадскога штабу ДНД Міхаіл Пятрушын. Пятрушын адзначыў, што «гэтая структура існуе не толькі на паперы, а рэальная і садзейнічае ахове парадку ў горадзе». Колькасць дружын павялічылася са 165 да 216, у іх склад уваходзяць каля 8 тысяч чалавек. У абавязкі дружыннікаў уваходзіць ахова правапарадку на вуліцах у вячэрні час і пры правядзенні масавых мерапрыемстваў.

**Лавінія АРЭШКА**

# Аслеп у аварыі, але скончыў універсітэт

Сябра хацеў толькі паказаць яму, што можа ягонае новае аўто. Але не справіўся з кіраваннем, і машына апынулася пасярод поля. Дзевятнаццацігадовы Карал Грубэш адзіны выжыў пад жалезным ламаччам, але атрымаў цяжкія пашкоджанні. Для яго імгненна змянілася не толькі жыццё, але і навакольны свет. Ён страціў зрок. «Напачатку я думаў, што жыццё скончана. Не бачыў і не мог нікому сказаць. Сківаца была ўшчэнт раструшчана, і я не мог гаварыць», – узгадвае Грубэш. Сёння гэтага як быццам і не было. Праз 9 гадоў ён даказаў сабе і ўсім навокал, што з такімі пашкоджаннямі можна рабіць усё, што пажадаеш, напрыклад, вучыцца ва універсітэце.

### Першыя крокі з белай кавенькай

Карал прызнае, што шлях, які прывёў да універсітэту, быў нялёгкі. Месяц з паловай пасля аварыі Карал праляжаў у шпіталі. Калі вярнуўся дадому, вучыўся жыць як сляпы. Паступова ён навучыўся ўсім умельствам сляпых – асабістай гігіене, шпацырам з белай кавенькай, чытанню брайлевага шрыфту. Праз год ён ужо мог сам дайсці да бабулі, якая жыла ў вёсцы за два кіламетры ад яго. «Перспектывы былі змрочныя, але сам сабе я казаў, што пакуль не бачу, але мушу з гэтым жыць далей. Матулі мусіў сказаць, каб пачала хадзіць на працу, бо ўжо мог пра сябе паклапаціцца сам. Мне таксама хацелася болей свабоды», – кажа Карал, усміхаючыся. З дапамогай дзяржаўных датацыяў Карал Грубэш здолеў набыць камп'ютэр з галасавым злучвом, і яму адкрыўся свет інфармацыі.

### Навучанню дапамог камп'ютэр

Адмысловыя камп'ютэры дазваляюць пераводзіць тэкст у гукавы выгляд, таму сляпы можа іх успрымаць на слых. «Паступова я пачаў верыць, што з яго дапамогай змагу вучыцца, і падаў заяву на паступленне на факультэт інфарматыкі. Выкладчыкі пайшлі мне насустрач і дазволілі здаць іспыт вусна. Ва універсітэце я быў за семестр пяць разоў цэлы дзень, астатні час рыхтаваўся дома, – кажа малады чалавек. – Зручна было тое, што бальшыню матэрыялаў выкладчыкі рыхтуюць на камп'ютэры, таму я не мусіў іх неяк асабліва трансфармаваць. Адзінае, што на слых вучыцца крыху даўжэй. Лекцыі я запісваў на магнітафон». Цяжэй яму было дайсці да навучальных карпусоў, бо ён не ведаў як мае быць дарогі. Летась Карал атрымаў ступень бакалаўра па агульнай інфарматыцы, а сёлета хоча паступаць на інжынерскі курс інфармацыйнага менеджменту.

### Дэканат: інваліды могуць вучыцца

Яраслава Мікулецка, дэкан факультэту інфарматыкі і менеджменту, навучанне інвалідаў падтрымлівае. «Яны маюць цялесныя пашкоджанні, але розум у іх у парадку. Таму яны могуць вучыцца. За апошнія гады на факультэце вучыліся 4 інваліды, і ўсе паспяхова. Мы ім трохі змяняем форму навучання ці ўзаемнай камунікацыі, але праграма ў іх такая ж, як у астатніх», – кажа дэканка. Вельмі добра дапамагае электронная пошта. «Зручна, калі можна дасылаць паведамленні і задачы мэйлам. Гэта спрашчае і паскарае нам кантакты», – кажа Яраслава Мікулецка. Эва Гадачкова, кіраўніца адзінай гімназіі для сляпых, якая месціцца ў Празе, паведаміла, што кожны год ідуць вучыцца ва універсітэты каля 10 сляпых. «Дзякуючы адмысловым камп'ютэрам магчымасці для далейшага навучання выразна пашырыліся. Гэта неверагодны скачок у параўнанні са становішчам, якое было 10 гадоў таму», – сказала Эва Гадачкова.

**Mlada Fronta DNES**
**Пераклад Іллі Глыбоўскага**

# Нарматывы – не галоўнае

Новая праграма фізічнага выхавання для школаў з 12-гадовым тэрмінам навучання, якую зараз распрацоўваюць, будзе зарыентаваная пераважна на аздараўленне. Нейкіх кардынальных, сутнасных зменаў у цяперашнім падыходзе да фізічнага выхавання школьнікаў у ёй не будзе.

Як распавёў намеснік дырэктара Рэспубліканскага цэнтру фізічнага выхавання і спорту навучэнцаў і студэнтаў Віктар Аўчароў, апошнюю праграму фізічнага выхавання, па якой зараз займаюцца школьнікі, прынялі ў 1998 годзе і поўнасцю рэфармавалі стары нарматыўны падыход да школьных заняткаў па фізкультуры. Дагэтуль выніковая адзнака па прадмеце залежала толькі ад здачы абавязковых нарматываў (па бегу, скачках у даўжыню, чаўночным бегу і г.д.).

Нарматывамі захапленне да спорту не прышчапіць, а да саміх заняткаў дзеці і падлеткі проста губляюць цікавасць. Сацыялагічныя даследаванні паказалі, што калі першакласнікі яшчэ ўрокі фізічнай культуры наведваюць з вялікім задавальненнем, то ўжо многіх выпускнікоў школ за час вучобы ад іх вароціць. Да такіх заняткаў, напрыклад, ставяцца адмоўна 15% студэнтаў Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі. Таму рэформа фізічнага выхавання 1998 году адсунула нарматывы на трэцяе месца паводле ўплыву на адзнаку. Галоўным цяпер стала засвойванне ведаў, якія ў далейшым дапамогуць дзецям захаваць і палепшыць здароўе, а таксама авалодаць рознымі відамі спорту. Такім чынам, у навучэнцаў, якія не вызначаліся дагэтуль поспехамі па фізкультуры, з'явілася магчымасць выйсці ў выдатнікі.

Па словах галоўнага педыятра Беларусі Ірыны Мітрошанкі, для 18% школьнікаў, што аднесеныя да спецыяльнай групы фізічнага выхавання, бо маюць нейкія хранічныя хваробы, у большасці школаў адмысловыя заняткі не праводзяцца. Фактычна такіх дзяцей проста вызваляюць ад заняткаў.

Да таго ж, на думку галоўнага педыятра, мае сэнс праводзіць раздзельнае фізічнае выхаванне для хлопчыкаў і дзяўчынак, пачынаючы з дзіцячага садка. Зараз такая дыферэнцыяцыя праводзіцца толькі пасля пачатковай школы. Неабходнасць у гэтым звязана з рознымі тэмпамі біялагічнага і фізічнага сталення абодвух полаў, а таму для кожнага з іх з самага ранняга веку патрэбны асобны спартовы падыход.

Ірына Мітрошанка падкрэсліла, што ўсе фізічныя нагрузкі, што атрымлівае дзіця, павінны пільна кантралявацца дактарамі. Аднак у сельскіх школах медычныя работнікі фактычна адсутнічаюць, і нават у тых самых мінскіх школах штат медычных работнікаў укамплектаваны толькі на 85%. З 1996 году цалкам ліквідаванае аддзяленне ўрачэбнага кантролю ў мінскай паліклініцы № 33 – студэнцкай.

**Алена ЛАБАНАВА**

# Юбілейная доля

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

10 гадоў філіі «Акопы». Аднайменны хутар з 1909 году арандавала маці паэта. У Акопах Янка Купала напісаў паэмы «Магіла льва», «Бандароўна», п'есы «Паўлінка», «Раскіданае гняздо», «Тутэйшыя». Сядзіба тая не захавалася, і яе давялося адбудоўваць, стылізуючы пад пачатак XX стагоддзя. Але засталіся шматвекавыя валуны, на якіх адлілі ў бронзе радкі з Купалавых вершаў. Неяк тут здарылася досыць прыкрая гісторыя. У ваколіцах гэтай філіі літмузею Купалы ляжаць землі паляўнічай гаспадаркі, дык аднойчы падчас палявання нехта абстраляў мемарыяльную белую шыльду каля акопнага валуна, на якім, складаючы вершы, сядзеў Купала. Паляўнічыя прынялі тую шыльду за зайца.

Яшчэ адна філія – у Ляўках, што на Аршаншчыне, на беразе Дняпра. Тут можна пабачыць аднаўленае лецішча паэта, дзе ён жыў з 1935 па 1941 год і якое згарэла падчас вайны, а таксама ягоны «Шэўрале». Бадай, самыя вядомыя купалаўскія мясціны – радзіма Янкі Купалы ў Вязынцы, што ў 40 кіламетрах ад Мінску.

Дырэктарка Літмузею Купалы спадарыня Дапкюнас кажа, што штогод музей наведваюць 36 тысяч чалавек:

– А ў 80-я гады было 200 тысяч разам з філіямі. Збольшага за кошт турыстаў, якіх проста аўтобусамі да нас прывозілі. 200 тысяч! Столькі нават у літаратурных музеях у Маскве не было. Гэта была дзікая, ненармальная лічба. А нас усё гналі з мінкульту: «Яшчэ, яшчэ!» Я адказвала, што можна і яшчэ, але то ўжо будзе не экскурсія, а абы-што. Літаратурная экспазіцыя, гэта не гістарычна-краязнаўчая. Проста хадзіць, глядзець тут немагчыма, тут разумець трэба.

***– Такім чынам, зараз вас наведваюць тыя, хто прыходзіць ці каго прыводзяць свядома, і вашыя экскурсіі – больш грунтоўнае і больш здумленае баўленне часу?***

– Так, гэта тыя, хто сам ідзе альбо каго настаўніца вядзе. Хоць наведнікаў магло б быць і болей. Бальшыня настаўнікаў, што працуюць зараз, вызнаюць прынцып «будзе ўказка зверху – будзем рабіць». Пасля рэферэндуму 95-га на нашыя званкі ў школы, бывае, чуеш такое: «А навошта? Беларускае ж цяпер не патрэбна!?» А напачатку 90-х, памятаецца, да нас дзеці прыходзілі з кветкамі, з развучанымі вершамі: для іх гэта было сапраўднае свята.

***– Што больш за ўсё цікавіць наведнікаў вашага музею?***

– Перш за ўсё асабістыя рэчы Купалы, рарытэты. Экспанаты экспанатамі, але Літаратурны музей без слова – нямы. З цікавых здабыткаў музею – знойдзеная непадалёк ад Вязынкі гільза ад патрону, куды былі ўпіхнутыя каляндарныя лісточкі. Звычайна іх бралі на самакруткі. На адной паперцы – «А хто там ідзе?», на другой – «Вучыся». Нехта захаваў, не скурыў.

***– А ці вялікая розніца ў змесце экскурсіяў тых жа 80-х і цяпер?***

– Натуральна, бо з 90-х гадоў адкрыліся многія творы Купалы, якія амаль 70 гадоў практычна не існавалі. Як можна ўмешвацца ў гісторыю і яе правіць? Незалежна ад таго, які сёння лад. Таму што ў выніку можна забыцца, а якой увогуле была гісторыя? Можна па-рознаму ацэньваць, але ў музеі павінна прысутнічаць адлюстраванне, як яно было. Калі мы стваралі экспазіцыю 25 гадоў таму, не надта можна было паказваць «Нашу Ніву». Але як можна не паказаць яе, калі з ёй звязаная значная частка жыцця Купалы. І вось я ў літоўскага пісьменніка Цільвіціса знайшла такія радкі: «Супрацоўнічаючы ў «Нашай Ніве», Купала імкнуўся ўносіць у яе рэвалюцыйны дух». Мы далі гэтыя словы, а астатняе давалі па «Нашай Ніве» што хацелі. Не ўсё лёгка даецца і зараз. Бываюць заўвагі, але калі Купала піша верш «25.3.1918-25.3.1920. Гадавіна-памінкі», прысвечаны БНР, то я не магу не сказаць, чаму ён быў прысвечаны.



Афіцыйную праграму святкаванняў юбілеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа прынялі толькі напрыканцы мінулага году. Трохі меней за год да дня нараджэння другога і за паўгода да дня нараджэння першага. Дырэктарка Літаратурнага музею Я.Купалы Жанна Дапкюнас згадвае, што, напрыклад, да 100-годдзя песняра рыхтаваліся каля 4 гадоў.

У купалаўскім музеі спадзяюцца на нейкае дадатковае фінансаванне, але пакуль да юбілею паэта нічога не выдаткавана. Хоць трэба было зрабіць рамонт галаўнога будынку музею ў Мінску і абнавіць ягоную кампазіцыю, якой ужо 25 гадоў, перакрыць дах у Яхімаўшчыне, паладзіць згнілую веранду на купалавай дачы ў Ляўках. Аднак пакуль не да таго. Спярша музейнікам трэба разабрацца з запазычанасцю за электрычнасць і ацяпленне. Днямі з-за гэтага яно было адключанае ў вязынкаўскім філіяле. У маразы гэта пагражае лопаннем трубаў – на рамонт грошай значна болей сыдзе, чымсьці на тую энергію.

Жанна Дапкюнас са скрухай глядзіць на праспект Скарыны, дзе ўначы падсветленае ледзьве не кожнае вакно: «У параўнанні з гэтым на музей Купалы патрэбна дробязь!»

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Беларусь на шляху да тэакратыі

*Дзяржаўныя ўлады, арганізацыі і чынавенства далёка не верацярпімай Беларусі актыўна падтрымліваюць (ідэалагічна, палітычна, адміністрацыйна, эканамічна, удзелам у рэлігійных мерапрыемствах) Рускую праваслаўную царкву (РПЦ). Яе выкарыстоўваюць дзеля падтрымкі аўтарытарнага рэжыму і дзеля разбурэння апазіцыйных яму настрояў, яе ўцягваюць праз дзяржаўныя СМІ ў выхаванне, адукацыю грамадзянаў, выпускаюць неафіцыйную прапаганду расійскага праваслаўя ў дзяржаўныя школы і ВНУ. РПЦ выкарыстоўваецца ў ролі найвышэйшага аўтарытэту ў сістэме маралі і ў уладкаванні грамадства, яе вучэнне ўключаецца ў дзяржаўную ідэалогію (побач з панславізмам і культам праваслаўна-славянскага збаўцы), – што фактычна ператварае РПЦ у афіцыйную царкву, а яе вучэнне – у дзяржаўную рэлігію.*



Патрыяршы экзарх у Беларусі мітрапаліт Філарэт і экс-міністр унутраных справаў РБ Юры Сівакоў у часе адкрыцця першай палковай царквы 24 красавіка 1999 году у Аколіцы, збудаванай з ініцыятывы Сівакова вайскоўцамі МУС РБ

Улада не адпрэчвае незаконнасці імперскіх прэтэнзіяў РПЦ на Беларусь як быццам бы ейную кананічную тэрыторыю і нават звязвае магчымасць запрашэння сюды Яна Паўла II толькі са згодай на ягоны візіт Сіноду РПЦ, тым самым парушаючы правы каталікоў Беларусі на стасункі з галавой іх царквы. Саюз дзяржавы і РПЦ сведчыць пра выкарыстанне рэлігіі як суб'екта дзяржаўнага кіравання (у тым ліку пры выпрацоўцы ўрадавых рашэнняў, датычных лёсу Беларусі), а ідэолагаў гэтай веры – як удзельнікаў такога кіравання. Дзяржаўная падтрымка РПЦ ушчамляе правы прыхільнікаў іншых рэлігійных плыняў, агностыкаў і атэістаў, бо за кошт усяго грамадства надзяляе гэтую царкву дзяржаўна гарантаванымі прывілеямі і пэўнай дзяржаўнай уладай, замацоўвае, ахоўвае і пашырае яе дамінаванне ў светапоглядзе нацыі. Яна таксама стварае канфрантацыю паміж вернікамі і атэістамі, паміж афіцыйнымі і неафіцыйнымі рэлігійнымі суполкамі, паміж праваслаўнымі і неправаслаўнымі, паміж прыхільнікамі РПЦ і прыхільнікамі незалежных ад яе праваслаўных абшчынаў.

Паколькі кожная рэлігія лічыць сябе адзіна праўдзівай, то апора афіцыйнай царквы на дзяржаўную ўладу дазваляе выкарыстоўваць гэты рычаг дзеля абмежавання ўплыву іншых рэлігій і бязбожжа, улучна з атэізмам. Сваю нутраную нецярпімасць да чужога светапогляду, уласцівага любой канфесіі, афіцыйная царква рэалізуе праз дзяржаўную моц. Дзе ў Беларусі антырэлігійная асвета? Рэдка сустракаецца ў СМІ крытыка РПЦ, хаця б такая, якая гучыць у Расіі. Чыняцца перашкоды дзейнасці іншых рэлігійных суполак.

Але РПЦ з дапамогай дзяржавы не толькі парушае правы чалавека з іншым светапоглядам. Яна выяўляецца таталітарнай арганізацыяй, якая парушае правы чалавека, душачы яго інтэлектуальную свабоду катэгарычнай забаронай унутрыцаркоўнага іншадумства. Узгадайма, напрыклад, нібыта ўхваленне вяртання да сапраўднага хрысціянскага жыцця, рэлігійнага адраджэння славян А.Лукашэнкам і Алексіем II у іх супольным звароце да грамадзянаў Беларусі, Расіі і Украіны напярэдадні 60-годдзя пачатку ВАВ. Паколькі кіраўніцтва РПЦ (Сінод), размешчанае ў Маскве пад дахам расійскай дзяржавы, прапаведуе ў якасці найвышэйшых і боскіх інтарэсы расійскай дзяржаўнасці, як яно іх разумее, а яно іх разумее, відаць, славянафільска-імперскім чынам, нават са станоўчай ідэалізацыяй былой Расійскай Імперыі, то падтрымка РПЦ дзяржаўнай уладай Беларусі – гэта дзяржаўнае забеспячэнне імпарту дадзеных інтарэсаў у Беларусь у якасці найвышэйшых духоўных і дзяржаўных каштоўнасцяў для вернікаў РПЦ з грамадзянаў Беларусі, а значыць, гэта духоўнае паслабленне суверэнітэту нашай краіны, заўзяты антыпатрыятызм. Нават у сонме абавязковых для веры кананізаваных святых РПЦ вельмі многа былых актыўных праваднікоў жорсткай імперскай палітыкі расійскага самаўладства.

Дзяржаўная падтрымка РПЦ супярэчыць не толькі Канстытуцыі (арт. 26), згодна з якім зазначана, што царква аддзеленая ад дзяржавы, і дэкларуецца свабода сумлення, але і міжнародным нарматыўным дакументам аб правах чалавека.

У сучасную эпоху НТР дзяржава ўхваліла падмену навуковых поглядаў рэлігійнымі, калі надала РПЦ статус афіцыйнай рэлігіі і тым самым павярнула краіну да эпохі феадалізму. За такой падменай нярэдка стаяць і глупства, і групавыя інтарэсы як саміх актывістаў РПЦ, асабліва яе прафесійных служкаў, якія выкарыстоўваюць дзяржаву ў сваіх карысных інтарэсах, так і ўладу маючых, якія ставяць РПЦ і яе прыхільнікаў на службу сваёй выгады.

Самы прагрэсіўны падыход, заснаваны на правах чалавека, – гэта паслядоўнае правядзенне прынцыпу аддзялення рэлігіі (а таксама дэізму, акультызму, атэізму і ўвогуле ўсялякай ідэалогіі) ад дзяржавы, якая павінна быць выключна свецкай і рацыянальнай. Сярод дэмакратычных краінаў найбольш паслядоўна дадзены прынцып праводзіцца ў Францыі, ЗША, Японіі. У Японіі Вярхоўны суд нават наклаў забарону найвышэйшым дзяржаўным чыноўнікам удзельнічаць у арганізаваных царквой рэлігійных мерапрыемствах (багаслужбах і г.д.). Перад хатнім алтаром хоць лоб разбі, а ў дзяржаўных справах кіруйся толькі рацыянальнымі мэтамі, матывамі і абгрунтаваннямі. У ЗША ёсць нібыта адхіленне ад гэтага прынцыпу. Падатковыя органы вылічваюць з падаткаабкладанага прыбытку сумы ахвяраванняў грамадзянаў на царкву, але пры ўмове, калі гэтыя сродкі ідуць на дабрачынныя, а не царкоўныя патрэбы. У Германіі дзяржава збірае для лютэранскай і каталіцкай цэркваў падаткі з вернікаў (з іхнай згоды), беручы за паслугі камісійныя, а ў Баварыі плаціць заробкі святарам і дыяканам са сваёй казны. У Бельгіі (каля 75% вернікаў – каталікі) дзяржава дапамагае фінансамі каталікам, англіканцам, пратэстантам, іудзеям, мусульманам і пазаканфесійным рэлігіям, але няма царкоўнага падатку. Аднак такое нястрогае адмежаванне царквы ад дзяржавы – гэта атавізмы недэмакратычнага мінулага Еўропы, што ідуць ад феадалізму.

Неад'емнае права чалавека ў прававой дзяржаве – гэта рэлігійная і нерэлігійная, у тым ліку антырэлігійная, светапоглядная свабода. Яна можа быць паспяхова забяспечана неўмяшаннем дзяржавы ў рэлігійнае і атэістычнае жыццё, а рэлігіі і атэізму – у справы дзяржавы; роўнасцю рэлігійных і атэістычных вучэнняў і арганізацый перад законам.

Відаць, кіраўніцтва РПЦ разлічвае ўзнавіць спачатку (ці хаця б) у Беларусі архаічную традыцыю кантролю РПЦ дзяржавы і кіраўніка, якую яна не можа ажыццявіць у Расіі. Наўзамен кіраўнік шукае ў РПЦ апірышча сваёй улады. Падобна, гэта атрымліваецца. Беларусі пагражае праваслаўна-тэакратычная контррэвалюцыя.

*Друкуецца скарочана*

**Георгій АНТАНЮК, доктар філасофскіх навук**

СІЛАВІКІ

## Беларуская армія здаецца царкве

Міністэрства абароны Беларусі ўмацоўвае сувязі з Рускай праваслаўнай царквой: у некаторых вайсковых частках Узброеных сіл Беларусі ў цырымоніі прыняцця ваеннай прысягі маладым папаўненнем, якая пройдзе 27 студзеня, магчыма, возьмуць удзел праваслаўныя святары. Пра гэта БелаПАНу паведаміў начальнік аддзелу інфармацыйнага забеспячэння міністэрства абароны падпалкоўнік Мікалай Раманюк. Пры гэтым ён падкрэсліў, што ўдзел святароў у цырымоніі прыняцця прысягі можа адбыцца «толькі па **асабістай ініцыятыве камандзіраў** вайсковых часцей і злучэнняў».

Падпалкоўнік Раманюк паведаміў, што сёння 55-65% прызыўнікоў называюць сябе праваслаўнымі і 5-6% – каталікамі. **«У расійскай арміі да рэвалюцыі праваслаўны святар быў не толькі прадстаўніком сваёй канфесіі, але і звяном паміж вайскоўцамі розных веравызнанняў і Богам»**, – адзначыў Раманюк. Гэтым прынцыпам, паводле яго словаў, Руская праваслаўная царква кіруецца і сёння.

На думку Мікалая Раманюка, неафіцыйныя кантакты з Беларускім экзархатам Рускай праваслаўнай царквы **«неабходна афарміць у выглядзе нейкага двухбаковага пагаднення»**. Аднак, адзначыў Раманюк, «да сённяшняга дня мы ніякіх сур'ёзных крокаў не рабілі».

18 студзеня міністэрства абароны Беларусі праводзіць навукова-практычную канферэнцыю «Патрыятычнае выхаванне як складнік дзяржаўнай ідэалогіі. Выхаванне моладзі ў духу грамадзянскасці і патрыятызму, гатоўнасці да вайсковай службы», у рамках якой упершыню будзе працаваць секцыя **«Праваслаўе і абарона Айчыны»**. Падпалкоўнік Раманюк падкрэсліў, што гэта «першыя сур'ёзныя кантакты» з праваслаўнай царквой. На канферэнцыі «будзе зроблена спроба прааналізаваць гісторыю ўзаемадзеяння арміі і царквы, вызначыць асноўныя кірункі супрацоўніцтва ў справе патрыятычнага выхавання моладзі».

Падпалкоўнік Раманюк паведаміў, што на канферэнцыі 18 студзеня будуць таксама «разгледжаны пытанні распрацоўкі Дзяржаўнай праграмы патрыятычнага выхавання моладзі Рэспублікі Беларусь».

**БелаПАН**

# Мірны і Сашурын б'юць у «малако»

На адкрытым першынстве Аўстраліі па тэнісе на аднаго беларуса стала меней. Макс Мірны не апраўдаў спадзяванняў сваіх фанатаў, у першым жа коле саступіўшы не вядомаму нікому датчаніну М.Плесу ў чатырох сетах. Макс, які апошнім часам добра гуляе, відаць, проста не здолеў настроіцца на слабога суперніка. Іншым паразу патлумачыць проста немагчыма. Затое Уладзіміра Валчкова пасля перамогі над амерыканцам Мамітам (3:6, 6:3, 6:3, 6:3) чакае ў другім коле сустрэча з самім Цімам Хэнменам. Папраўдзе кажучы, шанцаў на перамогу ў беларуса няшмат, але ж гэта гульня – і ўсё можа быць.

А беларускія біятланісты тым часам працягваюць гуляць на нервах беларускіх аматараў біятлону. Добра пачаўшы ў масавым старце этапу кубку свету ў Оберхофе (Германія), і Алег Рыжанкоў, і Вадзім Сашурын напулялі затым у «малако» і занялі месца ў трэцім дзесятку, саступіўшы па дзве хвіліны пераможцу, французу Рафаэлю Пуарэ. Наступны этап кубку свету зноў пройдзе у Германіі, у Рупальдынгу, а пачнецца ён заўтра.

**Аляксей СТАЎСКІ**

# Як шукаць інфармацыю ў інтэрнэце

Сусветнае павуцінне (*WWW*) часта параўноўваюць з бібліятэкай. Але кожная бібліятэка мае каталог, а ў інтэрнэце ўсеахопнага каталогу няма. Ёсць сайты кшталту *Yahoo!*, якія збіраюць інтэрнэтаўскія рэсурсы, але няма ніякай гарантыі, што *Yahoo!* мае ў сваёй калекцыі тое, што вы шукаеце. Таму ў некаторых выпадках ёсць сэнс скарыстацца паслугамі наступных пошукавікаў. Вось найбольш папулярныя з іх:

**Altavista**

(www.altavista.com) — мабыць, найбуйнейшая і тэхналагічна найбольш передавая сістэма. Разумее розныя мовы і можа адказваць на пытанні, дазваляе шукаць выявы і гуказапісы, класіфікуе каля 150 млн. сайтаў з усяго свету.

**Yahoo!**

(www.yahoo.com) — класічная пошукавая машына; мае ў сваёй калекцыі каля 120 млн. старонак, пераважна амерыканскіх.

**Infoseek**

(www.infoseek.com) — лёгкая ў карыстанні, налічвае каля 40 млн. сайтаў з усяго свету.

**Hotbot**

(www.hotbot.com) — вельмі простая, добрая для пачаткоўцаў. Выклікае каля 120 млн. старонак (пераважна амерыканскіх), дазваляе бясплатна стварыць скрынку для электроннай пошты і свой веб-сайт.

Варта таксама наведаць старонку www.beaucoup.com, дзе прапаноўваецца шырокі выбар іншых пошукавых машынаў. У перакладах можа дапамагчы сайт *Babelfish* (http://babelfish.altavista.digital.com).

Другі спосаб пошуку грунтуецца на выкарыстанні ключавых словаў. Вы набіраеце, напрыклад, імя чалавека, звесткі пра якога шукаеце, а машына прапаноўвае спіс старонак, дзе сустракаецца гэтае спалучэнне літараў. Але яна можа вывесці на экран адрасы тысяч старонак, сярод якіх вы наўрад ці знойдзеце патрэбную вам інфармацыю. Напрыклад, *Altavista* пералічвае каля паўмільёна сайтаў, дзе згадваецца Элвіс. Існуюць некалькі прыёмаў, якія дазваляюць спрасціць пошук:

1. Калі вы хочаце праглядзець усе згадкі пэўнага слова, пастаўце перад ім у запыце знак плюса (+). Калі ж вы, наадварот, паставіце перад адным з ключавых словаў знак мінуса (-), то пошукавая машына не будзе звяртаць увагі на сайты, дзе яно згадваецца.

**Прыклад :** на запыт *+elvis+presley* вы атрымаеце адрасы старонак пра ўсіх Элвісаў і пра ўсіх Прэслі, вядомых вашай машыне, але камбінацыя *+elvis–presley* пазнаёміць вас толькі з тымі Элвісамі, якія маюць іншае прозвішча.

2. Калі вы напішаце ключавое слова маленькімі літарамі, машына не будзе асабліва прыглядацца да арфаграфіі, а калі з вялікай — машына будзе шукаць яго менавіта ў такім напісанні.

**Прыклад:** на ключавое слова *alex* вы атрымаеце адрасы, дзе згадваюцца *alex, Alex, ALEX, AlEx* і г. д., а напісанне *Alex* дапаможа вам сабраць адрасы толькі тых сайтаў, дзе фіксуецца менавіта такая форма слова.

3. Калі вы скарыстоўваеце ў якасці ключавых словаў устойлівыя спалучэнні (імя з прозвішчам, слоганы, цытаты і г.д.), трэба пісаць іх у двукоссе, інакш машына будзе шукаць кожнае слова паасобку і ў выпадковым парадку.

**Прыклад:** каб знайсці маналог Гамлета «*To be or not to be*», трэба ўзяць гэтую назву ў двукоссе, бо інакш можаце атрымаць усе інтэрнэтаўскія адрасы, дзе прысутнічае любое з тых словаў.

4. Фармулюйце задачу максімальна канкрэтна. Напрыклад, не «што з фантастыкі мне пачытаць», а «як знайсці апошні раман Гары Гарысана»: +«*Harry Harrison*» +«*novel*»+«*last*». Машына знойдзе толькі тыя сайты, дзе сустракаюцца ўсе тры ключавыя паняткі. Аднойчы мне спатрэбілася даведацца, калі памёр Чынгісхан. Я прагартаў шмат гістарычных сайтаў, але нічога не знайшоў. Тады я ўвёў у радок пошуку словы: +«*Genghis Khan*»+«*died*» — і першая ж прапанаваная мне машынай *Dogpile* старонка паведаміла, што вялікі заваёўнік назаўжды пакінуў сваю юрту 18 жніўня 1227 г.

5. Калі вы не ўпэўненыя, як дакладна пішацца ключавое слова, скарыстоўвайце знак зорачкі (*). Асабліва карысны гэты прыём для пошуку зменлівых словаў флектыўных моваў кшталту славянскіх: стаўце зорачкі замест зменнае часткі слова.

**Прыклад:** у адказ на запыт *marg*rita* вы атрымаеце сайты, дзе згадваюцца і *Margarita*, і *Marguerita*.

6. Калі падчас пошуку вы трапілі на сайт, перагружаны тэкстам, а вам трэба ўзяць з яго толькі кароткія звесткі на канкрэтную тэму, папрасіце камп'ютэр дапамагчы вам. Націсніце адначасова клавішы «*Ctrl*» і «*F*»: на экране з'явіцца пошукавае акенца, у якое можна ўвесці запыт.

7. Машыне *Altavista* можна сказаць, на якой мове павінна быць старонка, што вы шукаеце.

**Падрыхтаваў Б. Ю.**

# Калі камунізм апынуўся на панелі

*Магчыма, з-за бясконцых п'янак расійскія дзяўчаты былі ўзбуджаныя, шумныя, звадлівыя. Вянгеркі, наадварот, паводзілі сябе стрымана, так бы мовіць, шляхетна – паводзіны, выкліканыя класічным сцэнаром грэхападзення: пажар сямейнай драмы, немагчымасць іншага выйсця, апрача як пайсці на панель. Полькі таксама шмат пілі, але іх паводзіны былі ў цэлым спакойныя і дабрадушныя. У Празе хадзілі гуртамі па 10–15 чалавек са свінаю сутэнёраў і валютных маклераў. Балгаркі былі кепска апранутыя, з напаўпарванымі чаравікамі і выглядалі, як вясковыя дзяўчаты, якія толькі што трапілі ў горад. Але самае моцнае ўражанне пакідалі румынкі – іх ліхарадкавыя жэсты, прагны позірк, расчырванелыя твары, як на карцінках Ота Дыкса.*

Калі ж адчыніліся ўва Усходняй Еўропе шлюзы масавай прастытуцыі? Дакладна вызначыць немагчыма. Бо хвароба «буржуазнага грамадства» прастытуцыя была сурова забаронена ў Савецкім Саюзе адразу пасля эйфарыі НЭПу. І калі пасля Другой сусветнай вайны з'явіліся «краіны народнай дэмакратыі» з камуністамі пры ўладзе – Польшча, Чэхаславаччына, Усходняя Нямеччына, Венгрыя, Румынія і Балгарыя – яны атрымалі ў спадчыну гэткае ж стаўленне да прастытуцыі.

Такім чынам, па ўсёй Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, як і ў СССР, прастытуцыя была нябачнаю. Пазней аўтарытарны каркас камуністычнага рэжыму пачаў слабець. Крызіс праявіўся ў розны час, але ў адных і тых жа формах. З аднаго боку, нэндза і жыццёвыя цяжкасці гналі апошнія рэшткі сацыяльнага ўхвалення сістэмы, з іншага боку, палітычнае кіраўніцтва ўжо не адчувала ў сабе досыць сілаў, каб здушыць «антыкамуністычныя» паводзіны. У выніку атрымаўся «кампрамісны камунізм», аслаблены, без рэпрэсіўных здольнасцяў.

Не выпадкова першыя прастытуткі з'явіліся ў начным клубе «*Pipac*» у Будапешце. Сітуацыя ў Венгрыі змянілася пасля пераломнага 1956 году. Кадарызм мусіў прытрымлівацца талерантнага, патэрналісцкага стаўлення, адмовіўшыся ад пагрозаў і строгасцяў савецкай мадэлі. «*Pipac*» у шасцідзесятыя быў якраз такою рэгаліяй кадарызму. Цесны закутак, з рэзкім пахам алкаголю і тытуню, з дзесяткам столікаў і ўзвышшам углыбіні. На ўзвышшы – старая электрычная печка, а побач чатырыпяць дзяўчат з пасінелымі ад холаду тварамі паказваюць нешта накшталт стрыптызу.

У бары (пальчаткі «сетачка», сумачка) пазяхалі зводніцы. Ува ўсім савецкім блоку не было нічога падобнага, і можна сабе ўявіць, з якой збянтэжанасцю ўваходзілі сюды дэлегаты ад Расіі, Узбекістану, Манголіі.

Але каб феномен стаў масавым, патрабавалася карэнная змена сітуацыі ў адной з краін камуністычнага блоку. І гэта здарылася ў Польшчы ў 1980 годзе. Камуністычная ўлада яшчэ дыхала, але была бясільная што-колечы забараніць. За некалькі тыдняў па Варшаве распаўсюдзілася прастытуцыя. Сотні маладых жанчын выйшлі на панель у пагоні за далярамі і маркамі. Натоўпы прастытутак стаялі каля двух гатэляў для іншаземцаў – «Вікторыя» і «Форум». І нават пераступіўшы парог, госці не пазбаўляліся іхных дамаганняў. Даўшы хабар усяму персаналу гатэлю, прастытуткі мелі магчымасць вольнага ўваходу. Яны стаялі каля гардэробу, сядзелі ў крэслах у холе, у бары, у чайным пакоі, побач з туалетамі. А тыя, хто не скупіўся на чаявыя, маглі нават праходжвацца ў калідоры каля пакояў. Словам, два гэтыя гатэлі ператварыліся ў дамы распусты, дзе ўжо з 11 раніцы з'яўлялася група дзяўчат, якія



спрабавалі залучыць любога іншаземца, які праходзіў міма.

Якраз тут, у Варшаве, асабліва відавочна выявілася тая галеча, у якой апынуліся камуністычныя краіны, і масавая прастытуцыя была самым яскравым адбіткам гэтай эканамічнай катастрофы. Сапраўды, мноства прастытутак, прыхаваныя формы «штурму» ўсіх, хто мае валюту, абыякавасць паліцыі – усё гэта складалася ў нейкі вобраз, чужы ўяўленню пра Еўропу, але які моцна нагадваў Бамбей, Бангкок, Лагос. Нейкая ўсходняя ўкропіна ў цэнтры Еўропы. Цяпер ужо ўва ўсіх камуністычных краінах грошы каштавалі не на шмат больш за паперу, на якой былі надрукаваныя. Каб адолець галечу, каб купіць тое, што ў дзяржаўных крамах не з'яўлялася гадамі (прыстойную ежу, пральны парашок, шампунь, касметыку, бялізну), цэлае пакаленне жанчын выбрала вуліцу.

За полькамі пайшлі пражанкі. А паколькі Чэхаславаччына была вытворцам таннае тэхнікі, тут часта бывалі пакупнікі з Афрыкі і Азіі. Такім чынам, госці з Ірану, Марока, Алжыру, Конга, Нігерыі, апынуўшыся ў Чэхаславаччыне па справах, сустракалі ў гатэлях натоўпы спрагнелых бландзінак, якія прадавалі сябе за смехувартую цану. Для гэтых сціплых камерсантаў, адзетых у нясвежыя нейлонавыя кашулі, якія няспынна палілі і здымалі чаравікі, ледзьве прысеўшы на канапу ў холе, Прага мусіла здавацца раем.

У тыя ж часы прастытуцыя атрымала распаўсюджанне і ў Румыніі. З рэжымам Чаўшэску румыны на пачатку васьмідзесятых дайшлі да крэсу. У Бухарэсце людзі галадалі, а тэлебачанне передавала праграмы толькі дзве гадзіны ў дзень. Зімой людзі кладліся спаць у паліто і рукавіцах, бо не хапала цяпла. І адным з вынікаў гэтага крызісу стала з'яўленне прастытутак на вуліцах, проста на вачах у паліцыі, якая цяпер была з імі заадно. Але напраўду Бухарэст меў грунтоўную традыцыю. У 1915 годзе, калі Джон Рыд пабываў тут, ён напісаў пра дзесяць тысяч публічных жанчын. І на пачатку трыццатых, калі Поль Маран працаваў у французскім пасольстве, горад кішэў прастытуткамі. З прыходам камунізму сітуацыя змянілася, але цяпер усё зноўку вярнулася на кругі свае. У старым і славутым «Афінскім палацы», які цяпер заняпаў і повен тараканаў, праходжваліся жанчыны, падобныя да прывідаў, з ярка-чырвонымі вуснамі і падбітымі вачыма. Яны блукалі з кута ў кут, мармычучы нейкія непрыстойнасці па-англійску з безнадзейнасцю ў вачах і ў голасе, гатовыя, у выпадку няўдачы, абрынуць на страчанага кліента вадаспад румынскае лаянкі.

Але калі Будапешт нават у тыя часы мог прапанаваць імпрэсіяністычны жывапіс і тэатр, то была яшчэ і Масква, дзе масавая прастытуцыя набыла самыя пачварныя формы, аж да таго, каб стаць алегорыяй апошніх дзён камунізму. Або, найверагодней, таго, што расквітнела пышным цветам у той час: палітычная параза, беднасць, псіхалагічная і маральная траўма. Тратуары паміж вуліцай Горкага (Цвярской) і Манежам былі поўныя жанчын у кароткіх спадніčках, дробных зладзюжак, гандляроў валютай, зводнікаў, якія, нават не стараючыся панізіць голас, гандлявалі няпоўнагадовымі. Гэтакае можна было пабачыць толькі ў самы трагічны час пасля Другой сусветнай вайны. А быў трэці год Гарбачова, лета 1988-га. Адчуванне прастрацыі і ненадзейнасці, жудасныя здані галечы, вобразнае адлюстраванне таго, як можа быць стаптаны ўсялякі сорам і стрыманасць – усё гэта было гэткае ж, як і падчас найвялікшых разбурэнняў у сучаснай гісторыі. Усялякі нагляд знік. Плынь жанчын, якія сышлі з фабрык і ўстановаў, з'ехалі з калгасаў, вылілася на вуліцы. Гэтыя жанчыны глядзелі на ўсё са злосцю і выклікам. На савецкі рэжым, на пакаленне бацькоў, якія 70 гадоў цярпелі здзекі, на замежнікаў з іх капшалькамі, напханымі сапраўднымі грашыма, а не тою паперою з «радзімы сацыялізму». Уражвала раптоўнасць абвалу.

Прастытуткі зноўку з'явіліся побач з Манежам. Для таго, хто ведаў горад, гэта было дзіва; таму я пайшоў спытацца ў генпракурора, ці не змяніліся законы і ці не дазволена цяпер прастытуцыя. Ён паглядзеў на мяне са здзіўленнем: «Прастытуткі? Якія прастытуткі? Вы вельмі памыляецеся. У сацыялістычнай сістэме не існуе выпадкаў прастытуцыі. Гэты феномен цалкам адсутнічае. Тыя няшчасныя жанчыны, якіх Вы бачыце вечарамі каля свайго гатэлю, – гэта хворыя. Яны німфаманкі, мы спрабуем ім дапамагчы, але часам яны ўцякаюць з-пад нашага кантролю...» Няшчасных німфаманак была, аднак, цэлая армія; вось жа, яшчэ адной хлусні прыйшоў канец. Ніводзін генпракурор або апаратчык з ЦК не мог цяпер сцвярджаць, што «ў сацыялістычнай сістэме не існуе выпадкаў прастытуцыі». Сталіца «раю для рабочых» ператварылася ў бардэль пад адкрытым небам, які п'янства і істэрыя расійцаў напоўнілі сваркамі, разборкамі, сутычкамі. Падобна самым прагнілым лацінаамерыканскім дыктатурам (Дзювалье на Гаіці, Самоса ў Нікарагуа), камунізм крочыў па тратуарах Масквы ў атачэнні крыклівых зладзейчыкаў і прастытутак.

**Сандра ВІЁЛА,**
**La Repubblica**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Змiцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1109 Нумар падпісаны ў друк 15/01/2002 (15:00) Наклад — 8.150